


№ 27 (816) 24 ліпеня 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Беларусь стане апірышчам для кітайскай імперыі?

«Калі Кітайская Народная Рэспубліка пазіцыянуе сябе сёння ўжо як Імперыя, у добрым сэнсе гэтага слова, калі гэта вядучая дзяржава — без Еўропы, без гэтага цэнтра яна развівацца не можа. Я мяркую, што Кітайская Народная Рэспубліка выбрала Беларусь. І мы ганарымся гэтым», — заявіў Аляксандр Лукашэнка кітайскаму агенцтву «Сіньхуа» напярэдадні сваёй чарговай азіяцкай паездкі.

## Што Лукашэнка прывёз з Кітая?

Краінам Афрыкі прапануюць больш. Піша Зміцер Панкавец. **Старонка 4.**

## Вялікая Кітайская Цана, ці Годнасць «свінак».

Эсэ Стася Карпава. **Старонка 5.**

## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

# ЦТ цяпер на халяву не здасі

**Павышэнне мінімальнага бала апраўдала сябе.**




Ужо 4 жніўня беларускія ВНУ скончаць прыём дакументаў. Здаць цэнтралізаванае тэставанне (ЦТ) сёлета пажадалі каля 118 тысяч чалавек. Гісторыі пра абітурыентаў, якія намалявалі ў экзаменацыйным бланку рыбку ці караблік ды паступілі ва ўніверсітэт, не давалі спакою, таму тры журналісты «НН» сталі ў шэрагі абітурыентаў і правялі эксперымент. Ці можна трапіць у беларускую ВНУ, нічога не вучыўшы?

### Шырокі спектр

Для эксперымента былі выбраныя тры «тройкі» іспытаў, якія даюць найшырэйшыя магчымасці для паступлення. Здаўшы мову, матэматыку і грамадазнаўства можна падаваць дакументы на правазнаўства ці, напрыклад, у Акадэмію МУС (хоць туды неабходна здаць яшчэ і іспыт па фізпадрыхтоўцы).

Сертыфікаты па матэматыцы, фізіцы і мове адкрываюць дарогу для паступлення на безліч тэхнічных спецыяльнасцяў. На некаторыя з іх — як на фізічны ці механіка-матэматычны факультэт БДУ — летась конкурсу зусім не было.

Трэці папулярны кірунак — філалогія і лінгвістыка — патрабуе здачы іспыта па беларускай ці рускай, замежнай мове і гісторыі Беларусі.

### Мабыць нехта здаў наўгад, але не мы

**Кірыла Хілько:** «Я «паступаў» на юрыста. Найболей мяне цікавіла матэматыка, бо са школьнай праграмы абсалютна нічога не памятаю, і таму выбіраў з дапамогай дзіцячай лічылкі, куды паставіць крыжык. Аднак пра іншыя прадметы таго ж не скажу. Наўрад ці людзі, якія нічога не вучылі, здаюць іспыты па гуманітарных прадметах не гледзячы ў заданні — там не лічбы і формулы, можна прачытаць і паспрабаваць выцягнуць хоць нешта з агульных ведаў.

Таму я вырашыў імітаваць сярэднестатыстычнага невука: на непрыстойна лёгкія заданні па беларускай мове і грамадазнаўстве, якія звычайна месцяцца ў пачатку тэсту, намагаўся адказваць сумленна. А дзе патрабавалася напружвацца і думаць — наўгад.

Вынікі атрымаліся сярэдненькія, аднак для чалавека, які зусім не рыхтаваўся — проста шыкоўныя. Удалося нават угадаць адно заданне з тэсту часткі «В» па матэматыцы, дзе трэба самому ўпісаць слушны адказ, а не паставіць крыжык».

Беларуская мова — 40
Грамадазнаўства — 39
Матэматыка — 11

**Сяргей Макарэвіч:** «Я вырашыў усё здаваць наўгад, але выпрацаваў адмысловую сістэму. Калі здаваў расійскую мову, падрыхтаваў пяць варыянтаў расстаўлення адзнак у бланку адказаў, якія паўтараліся праз кожныя пяць пытанняў. Дарэчы, расійская мова была самым складаным іспытам, бо аднячасова правільнымі маглі быць некалькі варыянтаў адказаў. Аднак усё ж удалося набраць мінімальны бал, з якім ужо можна падаваць дакументы ў ВНУ.

Падчас здачы гісторыі Беларусі я ставіў крыжыкі «лесвіцай»: ад першага да пятага адказу, а потым уверх. І атрымаў нядрэнны вынік у 32 балы. Аднак па англійскай мове з «адваротнай лесвічкай», калі пачынаў з пятага адказу, даходзіў да першага і гэтак далей, змог набраць толькі 16 балаў».

Англійская мова — 16
Расійская мова — 10
Гісторыя Беларусі — 32

**Юрась Ускоў:** «Здаваць нешта наўгад было сорамна. Таму з беларускай мовай узнікла праблема, якая вырашылася наступным чынам. Я рашыў увесь тэст на чарнавіку, пасля чаго запоўніў бланк да сярэдзіны слушнымі, на мой погляд, адказамі, а рэшту ўжо так, як мне хацелася: дапамагла кніга «Арнаменты народаў свету».

Што да фізікі і матэматыкі, то тут праблем не ўзнікала — задачы аб прыкручаным да столі шарыку, які для нечага раскруцілі і прапануюць нешта вылічыць, заўсёды выклікалі ў мяне неразуменне: самі раскруцілі, самі вылічвайце. Паколькі абодва прадметы вымагаюць толькі па адным адказе на пытанне, даваўся адвольна ставіць «птушачкі»».

Беларуская мова — 42
Матэматыка — 10
Фізіка — 11

### «Сюрпрыз» ад Мінадукацыі

Для кагосьці напісаць ЦТ паспяхова — значыць набраць не менш за 70—80 балаў. Аднак калі паступленне дзеля «корачкі» і адмысловай падрыхтоўкі да ЦТ не было, паказчыкам паспяховасці можа быць пераадоленне мінімальнага бала.

Сёлета Міністэрства адукацыі, рэагуючы на патрабаванні грамадскасці, значна павялічыла парогавы бал. Цяпер замест мінімальных сямі балаў па ўсіх прадметах абітурыент мусіў набраць мінімум 10 балаў па беларускай ці рускай мове, 15 балаў па фізіцы, матэматыцы, біялогіі ды хіміі, а таксама 20 балаў па іншых прадметах.

Гэта значна сапсавала статыстыку: мінімальны бал сёлета не змаглі пераадолець рэкордныя 40 тысяч абітурыентаў — больш за трэціну тых, хто здаваў тэсты. Летась «няўдачнікаў» было ўсяго 11 тысячаў чалавек (кожны дзявяты абітурыент).

Пакуль спецыялісты ўхваляюць рашэнне аб павелічэнні мінімальнага бала, а ВНУ прагназуюць недабор студэнтаў, «метад тычка» для здачы ЦТ становіцца ўсё менш актуальным. Адна справа набраць 7 балаў, а вось набраць 20 — зусім іншая. Вось і карэспандэнты «НН» увайшлі ў тыя 40 тысячаў гора-абітурыентаў, многія з якіх яшчэ маглі паступіць у мінулым годзе, а ў гэтым не змогуць.

**СМ, КХ, ЮУ**

### Апытанне на nn.by

**За каго б вы галасавалі, калі б зноў апынуліся на прэзідэнцкіх выбарах-1994?**

| | | |
|---|---|---|
| Зянон Пазняк | 2102 | 59% |
| Станіслаў Шушкевіч | 789 | 22% |
| Вячаслаў Кебіч | 149 | 4% |
| Аляксандр Лукашэнка | 131 | 4% |
| Аляксандр Дубко | 71 | 2% |
| Васіль Новікаў | 16 | 0% |
| Супраць усіх | 291 | 9% |

Усяго прагаласавала 3549 чалавек

## Сцісла

### Настаўнікам дадаюць дзве гадзіны працы

Стаўка павялічылася ад 18 да 20 гадзін. Наколькі, дзякуючы гэтаму, павысіцца заробак, у Міністэрстве адукацыі не кажуць.

### Футбола не будзе

Барысаўскі БАТЭ сенсацыйна прайграў у 2-м кваліфікацыйным раўндзе Лігі чэмпіёнаў казахстанскаму «Шахцёру». Абедзве гульні скончыліся паразамі беларусаў з лікам 0:1. Пяць гадоў запар БАТЭ гуляў у групавой стадыі еўракубкаў: у 2008, 2011, 2012 — Лігі чэмпіёнаў, у 2009, 2010 — Лігі Еўропы. Сёлета футбольнай восені не будзе.

### Забілі дзяўчыну-рэпетытара

Дзяўчына пайшла на заняткі да кліенткі, аднак не вярнулася. Аказалася, што малады чалавек, ад якога яна сышла, некалькі месяцаў выношваў план помсты. Ён пераканаў дапамагчы ў расправе сваіх сяброў — мужа і жонку. Дзяўчыну запрасілі ў кватэру нібыта для рэпетытарства, дзе і забілі. Пасля цела вывезлі ў лес і закапалі.

### У М'янме вызвалілі 73 палітвязняў

Гэта адбылося ўказам аб амністыі. Да канца года на свабоду выйдуць усе палітвязні. «Мы пераходзім да дэмакратыі», — заявіў прэзідэнт М'янмы Тэйн Сэйн. Раней ён адмяніў забарону на правядзенне масавых сходаў, якая дзейнічала 25 гадоў.

### Даражэюць міжгароднія аўтобусы

Ад 1 жніўня цана на праезд вырасце ў сярэднім на 9%. Праехаць адзін кіламетр цяпер будзе каштаваць 420—650 рублёў.

### Рэкамендуем

**1963 год**

як у БССР адзначалася 100-годдзе паўстання Каліноўскага

**Тры ў адной**

Антаніна — пляменніца Касцюшкі, удава Траўгута, жонка Міцкевіча

**Чытайце на nn.by**

### Самае чытанае на сайце nn.by за 17-23 ліпеня

1. Зніклую ў ягадах жанчыну забілі, яе машыну прадалі ў Расію
2. У цэнтры Мінска вывесілі бел-чырвонабелы сцяг — фотафакт
3. На Славянскім базары спявалі ў муляж мікрафона — відэа
4. Міхалкоў: Прыгоннае права — гэта мудрасць народа і патрыятызм
5. Перад прысудам. Зварот Аляксея Навальнага да жыхароў Расіі
6. Пад Шчучынам знішчылі крыж памяці Арміі Краёвай
7. Лукашэнка: цяпер усе заткнуліся і замоўклі
8. Начальнік брэсцкай міліцыі выбачыўся перад пенсіянерамі — ахвярамі зачысткі
9. Ідэалагічна правільны паштар — фотафакт
10. Грунвальдская бітва: як гэта было

# Аляксей Навальны: чалавек, які хоча, каб Расія стала падобная да Канады

Лідара расійскай апазіцыі асудзілі **на 5 гадоў** калоніі.




**Аляксей Навальны сядае ў цягнік Масква — Кіраў за дзень да таго, як яго асудзяць да 5 гадоў зняволення.**

Ленінскі раённы суд горада Кірава прызнаў Аляксея Навальнага вінаватым у раскраданні маёмасці кампаніі «Кіраўлес». Аднаму з найбольш яркіх расійскіх палітыкаў далі пяць гадоў турмы. Аднак нечакана, ужо праз ноч, Навальны быў адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

Аляксею Навальнаму 37 гадоў. Ён нарадзіўся ў вёсцы Бутынь Маскоўскай вобласці, што размяшчаецца на Мінскай шашы. Скончыў юрфак Маскоўскага ўніверсітэта дружбы народаў, факультэт фінансаў і крэдытаў Фінансавай акадэміі пры ўрадзе РФ, стажыраваўся ў прэстыжным універсітэце Еля (ЗША).

«Навальны — гэта палітык новай фармацыі, — кажа беларускі палітык Міхась Пашкевіч, які ўважліва сочыць за кар'ерай Навальнага. — Апошнія 20 гадоў у краінах СНД у змаганні за ўладу рэй вялі былыя прадстаўнікі гэтай самай улады — Нямцоў, Юшчанка, Казулін. А Навальны ніякім чынам не звязаны з урадоўцамі». Навальны працаваў у банку, вёў уласны бізнэс, займаўся лагістыкай.

Вядомасць Навальны атрымаў як блогер. Хаця спачатку ягоны інтэрнэт-дзённік у Жывым Журнале наведвала не больш за пару сотняў чалавек. Павага прыйшла да яго пасля публікацый фактаў карупцыі ў найвышэйшых эшалонах улады, вакол самога Пуціна. «Цяпер Навальнаму не трэба шукаць падтрымкі ў нейкіх СМІ, бо ён сам самадастатковае СМІ, — працягвае Міхась Пашкевіч. — Я перакананы: калі б тыя самыя факты друкаваў іншы чалавек, то такога рэзанансу магло б і не быць. Тут справа ў харызме Навальнага».

Цікава, што менавіта Навальнаму належыць фраза аб «Адзінай Расіі» — «Партыя жулікаў і вароў». Ён агучыў яе ў эфіры радыёстанцыі «Фінам FM». Вядучы яшчэ перапытаўся: «І Пуцін жулік і злодзей?» — «Так, і Пуцін», — адказаў Навальны. Такая пазіцыя дадала актывісту папулярнасці, бо ніхто з традыцыйнай расійскай апазіцыі так рэзка не выказваўся. І Зюганаў, і Жырыноўскі, і Яўлінскі выконвалі свае ролі ў палітычным тэатры і ні на што ніколі не прэтэндавалі.

Фраза пра «жулікаў і вароў» ператварылася ў мем і стала лозунгам пратэстаў апазіцыі.

«Навальны — гэта рэальны змагар за ўладу. У добрым значэнні слова, ён такая палітычная жывёла. Хай банальна прагучыць, але ўсё, што яго не забівае, робіць мацнейшым. Кіраўскі прысуд не знішчыў Навальнага, наадварот: ягоныя рэйтынгі падскочылі ў два разы», — працягвае Міхась Пашкевіч.

Сёлета Аляксея Навальнага вылучылі кандыдатам у мэры Масквы. Сацыёлагі даюць яму розныя лічбы. Праўладныя службы пішуць каля 5%, ліберальная радыёстанцыя «Эхо Москвы» — 15%. Тым не менш, усе пагаджаюцца, што апошнія падзеі значна дадалі Навальнаму вагі. «Абсалютна рэальна, што Навальны здольны выйсці на лічбу 25% галасоў», — мяркуе Пашкевіч.

«Накрыць усіх адразу» — вось ноу-хау Навальнага. Нацыяналіст, але пры гэты заходнік, ходзіць на «Рускія маршы», але падтрымлівае Хадаркоўскага. Змагаецца з карупцыяй і сябруе з прадпрымальнікамі, высоўвае папулісцкія лозунгі і фатаграфуецца ў гламурных часопісах. Такіх у расійскай палітыцы больш няма. Навальны — першы расійскі палітык амерыканскага тыпу, яго немагчыма злавіць на хлусні, яго няма на чым браць, апроч пустой справы «Кіраўлеса», — гэта характарыстыка ад тэлеканала «Дождж».

Ён чалавек адкрыты, здольны да выбудовы кааліцый, да працы па прынцыпе «Хто не супраць нас, той з намі».

Пра Беларусь Навальны выказваўся толькі аднойчы, і то ў разліку на расійскую аўдыторыю. У эфіры Украінскага тэлебачання ён сказаў: «Наша замежная палітыка павінна быць максімальна скіравана на інтэграцыю з Украінай і Беларуссю». Адразу пачулася: «Імперац!» Але ці зразумелі б у Расіі Навальнага, каб ён сказаў нешта іншае?

«Мне здаецца, што для Навальнага — гэта не прыярытэт. Калі б ён усур'ёз займаўся інтэграцыяй, то, будзьце перакананыя, меў бы сваю праграму. Ляпнуў дзяжурную фразу», — мяркуе Пашкевіч.

Чаму ўсё ж Навальнага адпусцілі да абскарджвання рашэння суда? Існуе шмат версій. Адны кажуць: каб дыскрэдытаваць палітыка паразай на выбарах мэра Масквы. Другія мяркуюць: каб не стварыць героя, бо і ў турме Навальны застаўся б лідарам апазіцыі. Магчымы і трэці варыянт: такім чынам Навальнаму «прапануюць» уцячы з краіны.

У любым разе, у выглядзе Аляксея Навальнага Пуцін атрымаў моцнага суперніка, а «еўрапейскі выбар Расіі» — свой твар. І, як у Беларусі, гэтак і ў Расіі, часцей за ўсё супернік аказваецца ці ў эміграцыі, ці ў турме.

**Зміцер Панкавец**

## «Лукашэнка заўтра не кінецца пераймаць гэта ў Пуціна»

Рэдактар часопіса ARCHE **Валер Булгакаў** аб прысудзе Аляксею Навальнаму.

Пасаджэнне Навальнага ў турму — гэта прыватны выпадак татальнай несвабоды нашых — беларускага і расійскага — грамадстваў.

Найлепшай салідарнасцю з Навальным былі б грамадзянскія і палітычныя ініцыятывы, якія б разнявольвалі грамадства перад абліччам непераборлівых у сродках уладаў.

Прысуд не паставіў апошняй кропкі ў справе Навальнага. Нас чакае доўгая чарада апеляцый і судовых баталій. Думаю, справа дойдзе да агульнаеўрапейскіх органаў юстыцыі.

Калі справа сапраўды высмактана з пальца, то прысуд раней ці пазней будзе перагледжаны пад ціскам Захаду. Калі ж не, то, які ў выпадку з Хадаркоўскім, усё звядзецца да рытуальнай рыторыкі заклапочанасці.

**Гутарыў ЗП**

## Аляксей Навальны. Правілы жыцця

• Маім галоўным героем быў і застаецца Арнольд Шварцэнэгер.

• У дзяцінстве ўсе білiся да крыві. Пабіцца з кімсьці да крыві азначала перамагчы.

• У мяне бацька з-пад Чарнобыля, і кожнае лета я праводзіў у бабулі ў вёсцы Залессе, за пару кіламетраў ад горада. Калі б аварыя здарылася ў чэрвені, я быў бы там. Каб не падымаць паніку, усіх калгаснікаў — і нашых сваякоў таксама — адправілі на бульбу, капацца ў радыеактыўным пыле. Толькі потым іх сталі адсяляць. Гэта была рэальная сусветная катастрофа, у якой я і мае родныя былі ахвярамі. Я быў там нядаўна. Зайшоў у бабулін дом. На падлозе ляжала паліто, якое насілі ўсе мае браты, і фатаграфіі, дзе я ў гэтым паліто летам бегаю. Амаль усё раскралі, але такія рэчы нікому не патрэбныя.

• Я люблю паляванне, але я хутчэй тэарэтычны паляўнічы. За ўсё сваё жыццё я забіў толькі цецерука і слонку. Гэтую слонку жонка мне не можа дараваць да сённяшняга. Калі я прынёс яе дадому, яна сказала: «Скубі сам». Але мы ўжо збіраліся ў адпачынак і проста шпурнулі слонку ў маразілку. Пакуль мы былі ў адпачынку, дома адключалі электрычнасць. Увогуле, калі без падрабязнасцяў, халадзільнік прыйшлося выкінуць.

• Чамусьці мне падабаецца ідэя, што нехта з маіх дзяцей стане архітэктарам.

• Мой найлепшы сябар — гэта мая жонка. Я часта кажу ёй: «Я не магу ляжаць на канапе і есці, калі ты на мяне не глядзіш». Самая папулярная цытата з «Сімпсанаў» у нас у сям'і.

• Менавіта цяпер Расія — самая багатая за ўсю сваю гісторыю і самая свабодная. Вялікая колькасць грошай, якія засыпаюць краіну, даюць нам шанец на грандыёзныя змены.

• Рэвалюцыя непазбежная. Проста таму, што большасць людзей разумее, што гэтая сістэма няправільная. Калі сядзіш у тусоўцы чыноўнікаў, больш за ўсё размоваў пра тое, хто ўсё скраў, чаму нічога не працуе і як усё жудасна.

• Усе гатовыя жыць сумленна. Паглядзіце на Грузію. Калі 20 чалавек — тыя, якія на самым версе, — пачнуць трымацца правілаў і законаў, яны прымусяць трымацца правілаў і законаў усіх астатніх.

• У мяне вельмі доўгія рукі. Выбраць пінжак — сапраўдныя мукі.

• Расія ў будучыні, я спадзяюся, будзе падобная на вялікую, ірацыянальную, метафізічную Канаду.

# Краінам Афрыкі прапануюць больш

Ці шмат **прывёз** Лукашэнка **з Кітая**?

Кіраўнік Беларусі здзейсніў свой чарговы, ужо сёмы візіт у Кітай. Што ж засталося ў сухой астачы за шматслоўнымі кампліментамі?

Кітай для Беларусі — гэта адзін з галоўных гандлёвых партнёраў. Таваразварот паміж нашымі краінамі летась склаў каля $3 мільярдаў. Лічба ўнушальная. Але ёсць праблема — абсалютную большасць складае імпарт кітайскіх тавараў у Беларусь.

Калі з Мінска ў Паднябесную апошнія сем гадоў колькасць тавараў ідзе прыкладна аднолькава, і гэта калійныя ўгнаенні, то ў зваротным кірунку павялічваецца штогод. Яшчэ ў 2005 годзе Беларусь мела станоўчае сальда ў гандлі з Кітаем ($430 мільёнаў экспарту на $284 мільёны імпарту), а летась сальда стала выглядаць проста катастрафічна ($433 мільёны экспарту на $2,37 мільярда імпарту).

Міністр замежных справаў Беларусі Уладзімір Макей абвясціў, што па выніках візіту Лукашэнкі ў Кітай заключаныя пагадненні на агульную суму $1,5 мільярда. «Падпісаныя дэкларацыі выводзяць нашы адносіны на ўзровень усебаковага стратэгічнага развіцця», — сказаў Макей.

Эканаміст Сяргей Чалы заначае, што беларускіх паставак у Кітай там будзе на некалькі сотняў тысяч даляраў, усё астатняе — зноў імпарт абсталявання і прац. «Адмоўнае сальда ў гандлі з Кітаем — гэта непераадольная структурная праблема. Чым большы таваразварот, тым большае адмоўнае сальда. Фактычна, кітайцы крэдытуюць нас дзеля пашырэння свайго экспарту», — перакананы Сяргей Чалы.

Пагадненні на $1,5 мільярда — гэта многа ці мала? Для Беларусі лічба істотная, тут Макей не крывіць душой. Але параўнаць з уліваннямі, якія робіцца ў беларускую эканоміку з боку Расіі нельга. Лічба не дацягвае.

Можна параўнаць гэтыя $1,5 мільярда з контрактамі, якія Лукашэнка заключаў у іншых паездках. Напрыклад, падчас сёлетняга візіту ў Паўднёва-Усходнюю Азію контрактаў, калі верыць Макею, было заключана на $400 мільёнаў. Гэта пры тым, што Сінгапур і Інданэзія не ўваходзяць у спіс асноўных партнёраў Беларусі. Некалі з Венесуэлы Лукашэнка прывозіў контрактаў — нібыта — на $5 мільярдаў. Таму гэтыя $1,5 мільярда ад другой эканомікі свету выглядаюць даволі сціпла.

Асабліва калі параўнаць укладанні Кітая ў іншыя краіны. Пакінем па-за ўвагай краіны азіяцкага рэгіёна, куды, па зразумелых прычынах, уліванні найбольшыя. Звернемся да краін Афрыкі, дзе Кітай сапраўды зацікаўлены ў сваёй прысутнасці.

Напрыклад, з Конга, дзе ёсць вялікія запасы медзі, свінцу, урану, цынку, алмазаў, у 2007–2008 гадах Кітай заключыў контрактаў на суму больш за $9 мільярдаў. У асноўным гэтыя грошы пайшлі на горназдабываючыя праекты, а таксама на транспартную і тэлекамунікацыйную інфраструктуру. Нешта падобнае тычыцца Нігерыі, Судана, Замбіі, Танзаніі ды іншых краін Афрыкі.

«Валютных рэзерваў у Кітаі дастаткова. Іх трэба кудысьці інвеставаць», — красамоўная цытата Лукашэнкі з інтэрв'ю агенцтву «Сіньхуа». Аднак Кітай інвестуе найперш туды, дзе ёсць сыравіна, якой бракуе яго эканоміцы. У Беларусі такой сыравіны няма. А падтрымка Беларуссю тэрытарыяльнай цэласнасці Кітая — справа дваццаць пятая.

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**



**Макей з'ездзіў у Брусэль**

Еўрасаюз працягвае дэманстраваць сваю гатоўнасць развіваць адносіны з Беларуссю..

Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей, з якога Еўрасаюз зняў візавыя санкцыі, узяў удзел у сустрэчы з кіраўнікамі МЗС краін Усходняга Партнёрства ў Брусэлі. Гучных заяваў ён не зрабіў, затое прыязна ўсміхаўся фатографам.

Гэта першая паездка Макея ў Еўропу пасля выбараў-2010. У студзені 2011 Макей быў занесены ў чорны спіс ЕС як асоба, датычная да жорсткага разгону Плошчы. На той момант Макей узначальваў Адміністрацыю прэзідэнта.

# Дзмітрыеву і Рымашэўскаму вярнулі свабоду

У турмах застаюцца **12 палітычных зняволеных**.

У пяці чалавек, асуджаных за Плошчу-2010, скончыліся тэрміны адбыцця пакарання. Гэта Сяргей Вазняк, Аляксандр Фядута, Андрэй Дзмітрыеў, Віталь Рымашэўскі і Сяргей Марцалеў. Цяпер ім можна выязджаць за мяжу, без дазволу мяняць месца жыхарства. «Вяртаецца пэўная воля да людзей», — каментуе праваабаронца Тацццяна Равяка. Але яшчэ два гады ў іх будзе захоўвацца судзімасць.

А вось Ірына Халіп у свой час была асуджана да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрмінаўкай выканання пакарання на два гады. Цяпер суд вырашыў зняць з яе пакаранне цалкам. 25 ліпеня а 10-й гадзіне ў Ленінскім райсудзе Мінска пройдзе такое ж паседжанне і па справе Уладзіміра Някляева.

Нягледзячы на патрабаванні Еўрасаюза, Аляксандр Лукашэнка не выпускае палітвязняў з турмаў. За кратамі застаюцца 12 чалавек. Гэта Мікола Статкевіч, Зміцер Дашкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Алесь Бяляцкі, Яўген Васьковіч, Андрэй Гайдукоў, Мікалай Дзядок, Эдуард Лобаў, Ігар Аліневіч, Арцём Пракапенка, Аляксандр Францкевіч. Павел Севярынец сядзіць на «хіміі».

Разам з тым, звяртае ўвагу Тацццяна Равяка, застаюцца два «палітычныя», пра якіх фактычна забылі. Гэта Дзмітрый Мядзведзь і Святаслаў Барановіч. Яны асуджаныя на тры гады абмежавання волі без накіравання ў спецустановы.

**Сяргей Макарэвіч**

# Хабар $500 тысяч для старшыні Белкаапсаюза

Кіраўніцтву арганізацыі пагражае **да сямі гадоў зняволення** з канфіскацыяй маёмасці.

Пад раздачу КДБ, якому было даручана заняцца праверкай чысціні будаўнічых схемаў, трапіў Белкаапсаюз. Пры перадачы чарговай часткі хабару былі затрыманыя старшыня арганізацыі Сяргей Сідзько, начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва Дзмітрый Калодзезны, ягоны намеснік Э.Сізук, а таксама «прадстаўнікі камерцыйных структур».

Як падазрае следства, кіраўніцтва Белкаапсаюза вымагала хабары памерам да $500 тысяч за пададры на работы на аб'ектах спажыўкааперацыі, а таксама продаж інвестарам зямельных участкаў і нерухомасці.

Падазраваныя ў ізалятары, ім пагражае да сямі гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці.

**ЯМ**

**Фотафакт**



СЯРГЕЙ БАЛАЙ, GAZETABY.COM

**Варламаў: гуманны прысуд**

Мадэльеру Сашу Варламаву далі пяць гадоў абмежавання волі, так званай «хатняй хіміі». З улікам двух гадоў зняволення ў ізалятары, яму засталося адседзець 8 месяцаў, і тыя дома, пад падпіскай аб нявыездзе. «Мне трэба найперш навучыцца хадзіць, навучыцца абслугоўваць сябе, бо два гады і два месяцы за кратамі, калі ўстаеш толькі ў туалет і на прагулку, — гэта цяжкае выпрабаванне. Трэба навучыцца быць свабодным», — заявіў ён.

# Вялікая Кітайская Цана, ці Годнасць «свінак»

Стась Карпаў. Эсэ.



Нядаўна наш гаспадар, быўшы ў Кітаі, адзначыў, што будаўніцтва кітайскага тэхнапарка адкрывае для нашай краіны фантастычныя перспектывы. Проста фантастычныя. Нехта з гэтай нагоды іранізуе, а я лічу, што прэзідэнт яшчэ і сам не ўсведамляе, наколькі гэтыя перспектывы ўсіх здзівяць маштабам. Паколькі ў хуткім часе я стану адным з малекулярных складнікаў «апірышча для вялікай кітайскай імперыі», я хацеў бы выказаць меркаванне, што такім чынам няўмольна і няўхільна набліжаецца той дзень, калі ўсё закончыцца. І дыктатура закончыцца, і эпоха «пачатку суверэннасці», якой мы яе ведаем, — закончыцца. І закончыць яе той жа самы чалавек, які яе пачаў.

Да наступлення эпохі ўсеагульнай роўнасці чалавекі мусілі пашыраць далягляд сваіх ведаў і сваю сацыяльную каштоўнасць наогул. З наступленнем жа гэтай (нашай) эпохі — і, баюся, незваротна — пачаўся рэгрэсіўны працэс, які дазваляе любому кіраўніку аўтарытарнага тыпу песціць унутры сябе такое прыемнае і камфортнае пачуццё наканаванасці і нязменнасці.

Рэч у тым, што людзі з радасцю тупеюць, і, у адрозненне ад папярэдняга працэсу, гэты і прыемнейшы, і хутчэйшы. Маленькі дыктатар жыве сабе і ведае, што (афіцыйна) электарат, а паміж намі — яго свінкі, — прадказальныя і непатрабавальныя арганізмы, з бліскучымі радаснымі вочкамі і вільготным лычком. Свінкі самі радуюцца, што атрымалі ў спадчыну такі лаканічны сакрэт сусветнага шчасця, як «абы не было вайны», і ў імя такога лозунгу гатовыя не тое, што ваяваць — ціха паміраць за шырмай. Ну што ж, «калі чэрнь навучылася нечаму верыць без падставаў, хто мог бы зняверыць яе ў тым — падставамі. На базары пераконваюць жэстамі». Так казаў Заратустра.

Таму дыктатар, беручы ўладу, спачатку мае ўнутраныя сумневы і ваганні, бачыць народ як незразумелую і пагрозлівую масу, стыхію, але з часам, як лузгу, адкідвае другаснае і нязначнае, і прыходзіць да мізантропскай пазыцыі, якая раней і «ў іх» гучала як panem et circenses (хлеба й відовішчаў), а цяпер і «ў нас» спрасціліся да чаркі і скваркі. З гэтай упэўненасцю дыктатар жыве, дыхае і радуецца сонейку, з гэтай жа думкай ён раптоўна ўсведамляе сябе прыўзнятым на вілах па дарозе на эшафот, бо сутнасць гештальту ў тым, што, дапусцім, народ не ёсць сукупнасцю індывідаў і, хоць з'яўляецца панылай і вартай жалю масай у прынцыпе, ён, тым не меней, мае ўнутры сябе некантантную колькасць самастойных асобаў, дастатковую для таго, каб у пэўны момант паставіць на вушкі ўвесь наш блакітны шарык. Акрамя таго, прыродай закладзена, што самка багамола пасля спарвання адкусвае самцу галаву. Дыктатар жа, згодна з прыродным цыклам, зґвалціўшы свой падведамасны народ, звычайна губляе галаву самастойна, спачатку ў метафарычным, а пасля і ў фізіялагічным плане. Па вялікім рахунку, гэта і ёсць так званы прынцып Бялкоўскага, які ў аўтарскім варыянце гучыць як: «У пэўны момант сістэма пачынае прымаць контрпрадуктыўныя для самой сябе рашэнні».

Механізм дачынення дыктатара з грамадствам такі, што, пазбаўляючы яго «другаснай і нязначнай» лузгі, дыктатар, як і пацук з электракантактамі на геніталіях, не можа спыніцца. Ён адкідвае свабоды, адкідвае ініцыятывы, адкідвае, нярэдка, інстытут сям'і і крэўныя сувязі і, вядома, адкідвае нацыянальны кампанент і падзел на свой/чужы. Ён адкідвае ўсё, акрамя жратвы і відовішчаў, і, можа быць, пры гэтым не памыляецца, але забывае, што абяцаць жратву і відовішча — не такая невыканальная задача для любога палітыка.

Можа ўзнікнуць сіла, якая паабяцае тую самую жратву з відовішчамі плюс нешта вельмі важнае, што было адабрана, бо калі грамадства, прагнучы выключна пайка, вырашыць, што паёк — гэта нешта, што даецца для дыктатара не такімі ўжо і вялікімі намаганнямі, яно перастане любіць дыктатара і палюбіць кагосці яшчэ.

Што я маю на ўвазе, разважаючы пра нашу сітуацыю?

Калі наш кіраўнік вырашыў будаваць кітайскі тэхнапарк, ён уступіў у стадыю, калі яму паверылася ў тое, што чарка і скварка — гэта сапраўды «наша ўсё», і памкнуўся з картачнага дамка выцягваць не тую карту. Ён пачаў забіраць у «свінак» нешта вельмі важнае. Тое, што нехта хутка паабяцае вярнуць назад. І зараз — запасайцеся папкорнам, сеанс будзе цікавым, але глядзець будзем кароткаметражку.

Раней наш гаспадар дзейнічаў так, што супрацьпаставіць сябе яму мог толькі ліберал са сваімі малацікавымі для «свінак» каштоўнасцямі кшталту індывідуальнай свабоды.

Пры гэтым дыктатар казаў «сваім свінкам»: «Паглядзіце, ліберал хоча каб вы былі галоднымі. Дзермакрат рабіў вас галоднымі ў 90-х і хоча зрабіць вас галоднымі зноў». Як «свінка» не паверыць у такую празрыстую тэзу?

А цяпер жа сітуацыя істотна памянялася. Вопытны дэмагог схібіў і даў права ходу яшчэ большаму і страшнейшаму дэмагогу ці таму, хто (як я спадзяюся) часова начэпіць на сябе гэтую маску, падмануўшы і мяне ў тым ліку. Гэты дэмагог будзе апеляваць да яшчэ ніжэйшай, яшчэ цямнейшай кампанэнты «свінні».

І, калі народ наш збольшага ўжо дастаткова атупеў для таго, каб не надта перажываць, што ў яго адабралі мову, свабоды і ініцыятыву, ён, як і належыць масе, дзе большасць — малаадукаваныя і дастаткова прымітыўныя арганізмы, павінен вельмі любіць адчуваць сябе ў статку, дзе ўсе, умоўна кажучы, пахнуць аднолькава і выглядаюць аднолькава. Я дык вельмі люблю. І, паколькі сытасць — гэта тое пачуццё, якое ў інтэрвалах паміж прыёмамі ежы дазваляе табе калі не хацець большага, то прынамсі, жадаць не страчваць нічога з элементаў персанальнага камфорту, — новы дэмагог ці «чалавек у ягонай масці» скажа: «Вы сытыя дзякуючы не дыктатару, а сабе. Дык чаму Ён аддае ваш хлеб іншым? Прыезджым, імя якім легіён! Яны выглядаюць не так, як мы, размаўляюць не так, як мы, думаюць не так, як мы. Кітайцаў у Кітаі паўтара мільярда. Ім няма дзе жыць, і таму яны заплацілі «дыктатару», каб ён іх пусціў да нас. А з імі ідуць агромністыя грошы, за адкаты і хабары. Ён называе вас свінкамі і хоча, каб вы дыхалі выкідамі іхных труб. Але вы — мужныя і свабодалюбівыя людзі. Вы — не жывёлы. У вас ёсць голас. У вас багатая гісторыя і прыгожая мова. Мы і самі сябе накормім, без іх. І без яго».

І «свінкі» пачнуць шаптацца: «Ну, мы і насамрэч — не свінкі, мы ведаем сваю велічную гісторыю, мы ведаем сваю мову, мы не хочам сюды кітайцаў». І няхай іх, вельмі імаверна, ужо зрабілі «свінкамі», і мовы яны, натуральна, не ведаюць, і гісторыю адлічваюць ад 41-га года, іх маленькі мозг будзе ў чарговы раз падмяняць веды верай і радаваццa.

Брутальны абагулены мужык з Аўтаза будзе казаць з усведамленнем мужчынскай годнасці, зглытваючы пафасны камяк у горле: «Я Волгу за жоўтага не аддам» — і пры гэтым бачыць згодныя пахітванні галоў сваіх сяброў, а ягоная недалёкая абагуленая жонка будзе ўдзячна лашчыцца да магутнага пляча, а абагуленая Вольга скажа: «Ды што ты, тат, я Петрыка кахаю. За жоўтага я і сама не пайду».

— Ай, — можа сказаць чытач. — А чаму ж у Еўропе няма такой праблемы? Ці ў ЗША?

А я адкажу, што ЗША і не ствараліся як нацыянальная дзяржава, а дакладней і не як дзяржава, а як калонія. Ну і пасля ва ўмовах наяўнасці індзейскіх рэзервацыяў было б дзіўна чуць пра нейкую дакладна акрэсленую амерыканскую нацыянальнасць.

У Еўропе ж, па-першае, такая праблема ёсць, і менавіта таму зноў пачынае расці папулярнасць «крайне правых», а па-другое, «каляровыя» першапачаткова з'явіліся там, як і ў ЗША, па сутнасці бяспраўнымі і на працягу апошніх дзесяцігоддзяў розніца ў правах нівелялася найперш па ініцыятыве карэнных жыхароў. Гэта быў свядомы выбар, а у нас «прадстаўнікі вялікай кітайскай імперыі» будуць, мусіць, у вачах многіх выглядаць захопнікамі, бо прыедуць яны не прыбіральшчыкамі працаваць, не для таго, каб мясцовы жыхар мог наняць іх на працу ў сваім маленькім бізнесе (за адносна невялікую плату), а для таго каб працаваць невядома (вядома) для каго, у імя невядома (невядома) якой карысці, па ГОСТах вядома (вядома) якой краіны, падпарадкоўваючыся невядома (невядома) чыім законам, кантактуючы з мясцовым насельніцтвам невядома (невядома) як, маючы, калі казаць пра мужчын, вядомыя (вядомыя) патрэбы. Усё гэта нагадвае нейкае адгаліналванне ад сюжэта «Вайны з саламандрамі» і таму «свінкі» вырашаць, што ім здрадзілі. «Свінкі» вырашаць, што іх называюць «свінкамі». «Свінкі» разззлуюцца, а перад тым — разлюбяць.

Запасайцеся папкорнам — кажу. Свінні жаруць усё. І, калі вы гадуеце свінак, варта ведаць, што яны праядаюць і сцены хлява.

# Дык ці адбудзецца дэвальвацыя?

Чаму беларусы з насцярогай глядзяць **на курс даляра?**

Валюты ў абменніках хапае, уклады можна зняць у любы дзень, цэны растуць усяго на 0,3% за месяц... — напершы погляд сітуацыя на фінансавым рынку краіны выглядае стабільнай.

Аднак сярод насельніцтва адчуваецца неспакой. На чым грунтуюцца чаканні людзей і чаму беларусы выглядаюць гатовымі да дэвальвацыі, якой няма?

### Даляр расце

Месяц таму амерыканская валюта каштавала на біржы 8650 рублёў. Цяпер — 8850 рублёў. Здаецца, розніцы некалькі працэнтаў, якія, тым больш, можна патлумачыць умацаваннем даляра ва ўсім свеце.

Аднак даляр у абменніках паспеў дайсці да псіхалагічнай мяжы ў 9000 рублёў. І нават калі Нацбанк на чале з Надзеяй Ермаковай, рэагуючы на сусветныя тэндэнцыі, зніжае курс, у трываласць рубля мала хто верыць.

### Бізнэс страхуецца

У курса даляра ў абменніках ёсць канкрэтная альтэрнатыва на рынках. Прадпрымальнікі, якія прадаюць імпартныя тавары — тэхніку, аўтазапчасткі, нават прадукты, — перастрахоўваюцца і закладаюць у цану курс 9000 ці 9100 рублёў.

Нават мабільныя апаратары выстаўляюць істотна большую цану на тавары, якія прадаюцца ў растэрміноўку. Розніца дасягае 10-20%. Апаратары апякліся на пазалеташняй дэвальвацыі, калі беларусы скупілі тэхніку па «старых цэнах», а расплачваліся за яе ўжо па новым курсе.

### Стаўкі павялічваюцца

Ад пачатку тыдня стаўка Нацбанка па крэдытах камерцыйным банкам на адзін дзень павялічылася да 40%. Неўзабаве да гэтага ж узроўню падцягнецца і прыбытковасць дэпазітаў для насельніцтва.

Пакуль што максімальная стаўка ва ўкладаў «Дэльта-Банка» (да 39%) і «Ідэя-Банка» (да 37%). Але гэта доўгатэрміновыя дэпазіты. Для тых, хто ўжо бачыць цень дэвальвацыі, дзяржаўны «Белаграпрамбанк» прадае ашчадныя сертыфікаты на 35 дзён пад 35%.

### Уклады змяншаюцца

Такія высокія стаўкі — адзіная магчымасць для банкаў хоць неяк утрымаць рублёвыя ўклады. Нагадаем, у чэрвені адбыўся пералом на дэпазітным рынку. Упершыню за паўгода насельніцтва пачало забіраць з банкаў свае рублёвыя ашчаджэнні. Частку сродкаў адразу ж паклалі на валютныя дэпазіты (ёсць пад 5—7%), а частка засталася ў беларусаў дома.

З іншага боку, банкам трэба засцерагчыся ад тых, хто гатовы рызыкнуць і ўзяць крэдыт на вялікую суму. Юрасобы і насельніцтва, якія ў пачатку 2011 года пазычалі ў банках дзясяткі мільёнаў рублёў, у выніку дэвальвацыі аказаліся ў вялікім прыбытку. Таму і крэдыты становяцца ўсё даражэйшымі.

### Ермакова абяцае

Нарэшце, насельніцтва ўважліва прыслухоўваецца да словаў Аляксандра Лукашэнкі, Міхаіла Мясніковіча і Надзеі Ермаковай. «Ніякай дэвальвацыі не будзе, — дзень за днём пераконваюць яны. — Аб'ектыўных прычын для яе няма!» Але як ім верыць, калі такія ж словы гучалі і два гады таму?

**Расплата за прыгожае жыццё**

2013 год — пік выплат па крэдыце Міжнароднага валютнага фонду, атрыманага пад папярэднія прэзідэнцкія выбары. Сёлета Беларусь мусіла вярнуць $1,6 мільярда і сваіх абавязкаў пакуль не адракаецца. Гэтыя грошы Нацбанку даводзіцца альбо браць з золатавалютных рэзерваў — а не хочацца, — альбо купляць на біржы, ствараючы тым самым дадатковы попыт на валюту. Да канца года МВФ трэба аддаць $600 мільёнаў. А налета — яшчэ $1,4 мільярда.

У выніку ў 2011 рубель абваліўся ў тры разы, Лукашэнка звінаваціў у крызісе самых беларусаў, а тагачасны кіраўнік Нацбанка Пятро Пракаповіч толькі цяпер асцярожна прызнаў: можа, у дэвальвацыі была і мая віна.

**Ягор Марціновіч**

# З дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў па-ранейшаму звальняюцца

Нягледзячы на забарону Аляксандра Лукашэнкі, з дзяржаўных дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў працягваюць звальняцца работнікі. Напрыклад, на «Мастоўдрэве» за першы квартал 2013 колькасць супрацоўнікаў скарацілася на 393 чалавекі, на «Віцебскдрэве» — на 322 чалавекі.

## Сцісла

**«Джылі» абяцае залатыя горы**

Кітайская кампанія Zhejiang Geely Holding Group вырашыла павялічыць інвестыцыі ў сваю беларускую вытворчасць да $500 мільёнаў. Плануецца выпускаць па 120 тысяч аўтамабіляў за год, пераважна для экспарту ў Расію. Для параўнання, летась на тэрыторыі Беларусі ўсімі дылерамі было прададзена 20 тысяч новых аўто.

**Прэзідэнцкі спартыўны клуб будуе «ГрынСіці»?**

Прэзідэнцкі спартыўны клуб на чале з Дзмітрыем Лукашэнкам стаў адным з заснавальнікаў зарэгістраванай у Смаленску кампаніі «Еўрастэпгруп». Гэта кампанія, якая займаецца будаўніцтвам гандлёвага цэнтра і гатэля «ГрынСіці» каля станцыі метро «Каменная горка» ў Мінску **(праект — на фота ўнізе)**. Праекціроўшчыкам і падрадчыка аб'екта выступае «Магнус груп», якую раней кантраляваў мільянер Юрый Чыж.



**Дэтройт збанкрутаваў**

Амерыканскі горад вінен сваім крэдыторам $18 мільярдаў. Дэтройт спадзяваўся пазбегнуць фінансавай неплацежаздольнасці, аднак суд забараніў рабіць гэта. За апошнія паўстагоддзя насельніцтва горада скарацілася ўтрая і цяпер складае ўсяго 700 тысяч чалавек. Кожны трэці жыхар знаходзіцца за рысай беднасці. Горад у свой час быў цэнтрам амерыканскага аўтамабілебудавання, але з часам амерыканцы пачалі адступаць у гэтай сферы, тады як вытворчасць спачатку ў Японіі, а пасля ў Кітаі вырасла.

**Цэны — толькі ў рублях**

Урад унёс змены ў правілы ажыццяўлення гандлю. Фермерам дазволілі прадаваць сваю прадукцыю праз інтэрнэт-крамы, інфармацыя аб памеры зніжак павінна ўказвацца ў працэнтных адносінах або ў абсалютным выразе. Усе цэны мусяць указвацца толькі ў рублях, апроч выпадкаў, калі прадавец мае права прымаць валюту.

**ЯМ**

# Карта ўраджайнасці Беларусі




**Самыя ўраджайныя раёны Беларусі** (цэнтнераў з гектара)

1) Нясвіжскі — 64,5 ц
2) Гродзенскі — 62,8 ц
3) Бераставіцкі — 57,3 ц
4) Мастоўскі — 56,1 ц
5) Карэліцкі — 51,8 ц
6) Клецкі — 51 ц
7) Мінскі — 50 ц

**Найменш ураджайныя раёны Беларусі** (цэнтнераў з гектара)

1) Браслаўскі — 18,5 ц
2) Расонскі — 19,3 ц
3) Гарадоцкі — 19,9 ц
4) Ушацкі — 20,3 ц
5) Сенненскі — 21 ц
6) Шумілінскі — 21,3 ц
7) Акцябрскі — 23,1 ц

Дзе зямля **найбольш урадлівая?**

У Беларусі пачынаецца вайна за жніво. Эфір дзяржаўных тэлеканалаў напаўняе штодзённая інфармацыя пра колькасць намалочанага збожжа. Ці ўдасца палепшыць паказчыкі?

Летась Міністэрства сельскай гаспадаркі агулам налічыла 8,8 мільёна тон збожжа — у сярэднім па 34,5 ц з кожнага гектара.

Белстат апублікаваў звесткі аб ураджайнасці ў кожным з раёнаў Беларусі за 2012 год. Лідары апярэджваюць аўтсайдараў утрая. Поспех дасягаецца за кошт буйных сельскагаспадарчых прадпрыемстваў — напрыклад, «Сноў» у Нясвіжскім раёне.

Надзвычай істотны і геаграфічны фактар: урадлівасць глебаў і кліматычныя ўмовы. У выніку найлепшыя раёны Віцебшчыны адстаюць ад найгоршых раёнаў Гродзеншчыны.

Ёсць розніца і між Заходняй ды Усходняй Беларуссю. На ўсходзе самыя высокія ўраджаі маюць толькі раёны вакол Шклова, куды за апошнія гады былі ўкладзеныя аграмадныя інвестыцыі.

**ЯМ**

# Паехала ў ягады: забілі, а машыну прадалі ў Расію

Таццяна Слонімская была прыгожай, светлай жанчынай, цудоўнай матуляй і дачкой. Зірніце на яе фота: яно само за сябе гаворыць.

З ліпеня, калі ў Мінску грымеў парад, Таццяна Слонімская адправілася да мамы, пад Мінск, у вёску Малы Трасцянец. Як заўжды на святы, хацела дапамагчы па гаспадарцы. Асаблівай работы не было, і жанчыны паехала ў ягады. Больш яе родныя не бачылі.

Мабільны тэлефон маўчаў. Два тыдні жанчыну шукалі і міліцыя, і ахвотнікі. Здымкамі зніклай былі абклеены ўсе прыпынкі ў Мінску. Яе дзеці днявалі і начавалі на пошуках. Яны прапаноўвалі 30 мільёнаў рублёў за інфармацыю пра маму.

Спачатку знайшлі сінюю «Мазду», на якой Таццяна паехала ў той дзень. Але ў Расіі. Машыну паспелі прадаць праз інтэрнэт і перагнаць. Калі яе спрабавалі паставіць на ўлік у Расіі, інфармацыю ў той жа дзень перадалі беларускім следчым (машына ўжо была ў вышуку). А затым вылічылі і прадаўца.

**Забівалі і за «БМВ»**

У 2010 разам з машынай знік 28-гадовы мінчук. Ён прадаваў свой «БМВ-Х5». Пасля першага ж званка адправіўся паказваць машыну патэнцыйным купцам і не вярнуўся. Яго знайшлі задушаным і закапаным у лесе пад Мінскам толькі праз два месяцы. Арыштавалі чатырох расіян. А машыны так і не знайшлі.






Усё здарылася з-за гэтай машыны.

**Закапаная ў лесе**

Першага падзараванага затрымалі 17 ліпеня на мінскім чыгуначным вакзале. 21-гадовы мінчук, не раз судзімы, прызнаўся, што забіў жанчыну, каб завалодаць яе машынай. Ён назваў і саўдзельніка: на два гады маладзейшага хлопца.

Цела Таццяны Слонімскай знайшлі ўранку 18 ліпеня за 20 км ад Малога Трасцянца — закапаным у лесе. Яе зарэзалі, а затым на яе ж машыне перавезлі ў лес каля вёскі Дварэц.

Крымінальную справу завялі за забойства з карыслівых меркаванняў. Гэты артыкул прадугледжвае зняволенне ад васьмі гадоў да пажыццёвага альбо смяротнае пакаранне.

Пахавалі Таццяну Слонімскую 22 ліпеня на могілках у Міханавічах.

**Без лішніх пытанняў**

Аўто Таццяны Слонімскай — не сказаць што надта дарагое. «Мазда-3» 2008 года выпуску на сталічным аўтарынку прапануецца ад 14 тысяч даляраў.

«Мазда-3» — папулярная ў Расіі марка, — расказаў адзін з удзельнікаў аўтамабільнага рынка Віктар. — Розніца ў беларускіх і расійскіх цэнах на такое аўто будзе мінімальная, хоць і на карысць расійскай. А перагнаць — не праблема: мяжы ж няма. Не трэба нават на фуры везці, можна і сваім ходам».

Пакуль следчыя не паведамляюць, за што раней быў судзімы адзін з затрыманых.

Затрыманыя даказваюць, што гэта было не спланаванае забойства — выпадковасць. Але як у галовах хлопцаў (фактычна, учорашніх школьнікаў) маглі адначасна ўзнікнуць такія думкі: забіць чалавека, а машыну прадаць?

**Сяргей Макарэвіч**

**Злавілі праз машыну**

У інтэрнэце шмат абвестак: «Куплю ў Мінску аўто без дакументаў і лішніх пытанняў, не бітыя, цалкам на запчасткі з дастаўкай у Расію 2003-2010 гадоў».

«У нас вы можаце атрымаць грошы за аўтамабіль у надта кароткія тэрміны, паколькі гэтая працэдура адпрацаваная ў нашай кампаніі шматгадовым вопытам і самымі рознымі сітуацыямі. І, канечне ж, вы зможаце прадаць аўто без дакументаў», — прапануецца на адным расійскім сайце. Аўто можна прадаць па даверанасці, нават тыя, што афармленыя ў крэдыт, — на запчасткі.

На адным з такіх сайтаў мы пакінулі анлайн-заяўку на продаж сіняй «Мазды-3», 2008 года без дакументаў — такая была ў забітай. Праз гадзіну прыйшоў адказ — прапанавалі 270 тысяч расійскіх рублёў (каля 8000 даляраў). Але з умовай, што аўто давядзецца прыгнаць самім да расійскай мяжы.

На шчасце, беларускія і расійскія міліцыянты ў выпадку машыны Слонімскай спрацавалі аператыўна, і нягоднікаў схапілі на гарачым. Аперацыю кантраляваў асабіста міністр унутраных справаў Ігар Шуневіч.

**Вышук**



**Жанчыну на фота** расшукваюць па падазрэнні ў крадзяжы нэтбука з палаты бальніцы хуткай дапамогі ў Мінску (вул. Кіжаватава). Хто валодае інфармацый пра яе, тэлефануйце ў Кастрычніцкае РУУС Мінска: (017) 239-46-19, (017) 222-04-42, (017) 222-04-46.



Ваўкавыскі РАУС расшуквае **Бычака Юрыя Міхайлавіча**. Яго абвінавачваюць у рабаванні, здзейсненым паўторна з выкарыстаннем гвалту. Прыкметы: на выгляд 35-40 гадоў, рост 175-180 см, валасы цёмныя. Тэлефануйце: (1512) 7-51-10, (1512) 7-51-15.



**Сямёнавых Пётр Аркадзьевіч** знік каля 3 гадзін уначы 13 ліпеня на возеры Цёста Гарадоцкага раёна. Прыкметы: на выгляд 40 гадоў, рост 176 см, хударлявы, валасы русыя з сівізной, на грудзях маецца татуіроўка «группа крові». Хто ведае знаходжанне зніклага, тэлефануйце: (033) 666-68-56 альбо 102.

## У Івацэвічах міліцыянт смяротна параніў сябе

А пасля **сам выклікаў «хуткую»**.

Ва УУС Брэсцкага аблвыканкама гэты выпадак называюць няшчасным. Участковы міліцыянт параніўся з пісталета і сам па тэлефоне выклікаў «хуткую дапамогу». Здарэнне адбылося 8 ліпеня ў кватэры міліцыянта.

«Гэта не тая сітуацыя, якой можна хваліцца», — са скрухай пракаментаваў выпадак начальнік Івацэвіцкага РАУСа Аляксандр Гук. Пакуль праводзіцца службовая праверка, акалічнасці справы не агалошваюцца.

Сябры старшага лейтэнанта Аляксандра П. кажуць, што і самі не ведаюць падрабязнасцяў. Удакладняюць толькі, што памёр раніцай 10 ліпеня. Наколькі вядома, у справе фігуруе менавіта табельная зброя ўчастковага. Пасля ранення яго даставілі ў бальніцу, дзе ён і памёр.

Вядома, што Аляксандр быў жанаты. У яго застаўся малы сын.

**СМ**



## Сцісла

**Падкінуў пляменніка і не злавіў**

Жанчына прыехала з гадавалым сынам з Яраслаўля ў госці да сваякоў у Крупскі раён. Адпачывалі, хтосьці выпіваў. Нападпітку быў і дзядзька хлопчыка. Ён вырашыў пагуляць з пляменнікам і падкінуў яго ўверх, але не ўтрымаў у руках. З чэрапна-мазгавой траўмай і пераломам патылічнай косткі дзіця шпіталізавалі.

**Арыштаваны мясны кароль**

Багата жыў былы гендырэктар Мінскага мясакамбіната Уладзімір Лазоўскі! Але яго затрымалі і абвінавачваюць у атрыманні хабару ў 4 тысячы даляраў, а маёмасці ў сталічнага мяснога караля арыштавалі на 600 тысяч даляраў. Неўзабаве павінен пачацца суд.

**Данькову прыпісваюць парнаграфію**

Уладальніка «Данькоў-клуба» Юрыя Данькова будуць судзіць па сямі артыкулах. Бізнэсоўца затрымалі яшчэ ў верасні па абвінавачванні ў стварэнні ўмоў для прастытуцыі ў клубе. Цяпер абвінавачванне пашырылі. Дадаліся ўхіленне ад выплаты падаткаў, службовы падлог, падробка альбо выкарыстанне падробленых дакументаў, саўдзел у фальсіфікацыі доказаў па грамадзянскай ці гаспадарчай справе, уцягванне ў прастытуцыю, выраб і распаўсюд парнаграфічных матэрыялаў.

**Смерць у «Экамедсэрвісе»: хірург апераваў стомленым**

Пасля пракурорскай праверкі высветлілася, што хірург, які апераваў Юлію Кубараву ў медцэнтры «Экамедсэрвіс», праводзіў трэцюю аперацыю ў той дзень. Першыя дзве доўжыліся пяць гадзін. Ён правёў іх на асноўным месцы працы — у 4-й гарадской клінічнай бальніцы Мінска. А пасля працоўнага дня накіраваўся на падпрацоўку па сумяшчальніцтве. Дзяўчына пасля той пластычнай аперацыі памерла.

**Пераблытала педалі**

Выпадак адбыўся вечарам 18 ліпеня ў вёсцы Гара Чашніцкага раёна. Жонка з мужам прыехала ў краму. Прыпаркаваліся. У гэты час пад'ехала машына з прадуктамі. Прадавец папрасіла пераставіць «Жыгулі», каб разгрузіць тавар. Муж сеў на лаўку пакурыць і даручыў жонцы пераставіць машыну. Жанчына пераблытала педалі і наехала на лаўку, збіўшы мужа. Ён памёр у бальніцы.

**КМ**

# Шоўмен Усевалад Сцебурака ажаніўся з дызайнеркай топавага рэкламнага агенцтва

17 ліпеня быў зарэгістраваны шлюб паэта і шоўмена Усевалада Сцебуракі, якога ўжо паспелі назваць беларускім «сэкс-сімвалам», і 25-гадовай Ганны Бабіцкай — фатографа і дызайнеркі топавага рэкламнага агенцтва «Крынь».

Падзея адбылася якраз у 32-і дзень нараджэння Усевалада.

«Чым ёсць шлюб для нас? Гэта еднасць блізкіх асобаў рознага полу!»

Усевалад часта вядзе розныя святы, у тым ліку вяселлі, таму рознага «стандартнага нудоцця», па яго словах, ён наглядзеўся, і ўласнае свята хацелася зрабіць больш запамінальным. «Уся нашая працэдура была свецкай — прайшла ў Кастрычніцкім ЗАГСе Мінска ў выглядзе так званага «несвяточнага роспісу» — то бок без пафасу і банальнасцей», — узгадвае Усевалад.

Хуткім часам маладых чакае мядовы месяц на Кіпры.

**Вольга Гарапучык**



## Міхалкоў: Прыгоннае права — гэта мудрасць народа і патрыятызм



Рэжысёр, старшыня Саюза кінематаграфістаў Расіі Мікіта Міхалкоў расказаў украінскім журналістам пра свае творчыя планы. Ён мае зняць гістарычны фільм пра прыгон, на што з бюджэту ўжо выдаткавана трыста мільёнаў рублёў.

«Бальшавікі зрабілі рэч страшную; яны сцерлі з памяці народа нашу культурную спадчыну, успаміны пра ўсё тое добрае і светлае, што было ў рускім народзе, у тым ліку памяць аб прыгоне. Аднавіць гістарычную праўду — наша задача», — цытуе рэжысёра сайт censor.net.ua.

Міхалкоў нагадаў пра выбітную духоўнасць расейскіх сялян, асабліва падкрэсліўшы любоў рускага чалавека да «цвёрдай рукі»:

«З падачы бальшавікоў цяпер у Расіі думаюць, што прыгоннае права было чымсьці накшталт паўночнаамерыканскага рабства. Але гэта былі зусім не адносіны раба і гаспадара, а сыноў і бацькі. Многія сяляне не хацелі ніякай «свабоды». Прыгон — гэта патрыятызм, замацаваны на паперы. Чалавек быў звязаны са сваёй зямлёй-матухнай не толькі пачуццем абавязку, але і дакументальна. Прыгоннае права — гэта мудрасць народа, гэта чатырыста гадоў нашай гісторыі».

**СМ**

## Футбаліста знайшлі нежывым у пад’ездзе

**Анатоль Будаеў** быў чэмпіёнам Беларусі, капітанам салігорскага «Шахцёра».



18 ліпеня былога футбаліста знайшлі памерлым у пад’ездзе дома. На галаве былі выяўленыя гематомы. Праводзіцца следства, ці гэтыя сінякі атрыманыя пры падзенні, ці ў выніку збіцця. 31 сакавіка яму споўнілася 44 гады.

Будаеў быў з Барысава. Але найбольшай вядомасці дабіўся ў Салігорску. Быў капітанам «Шахцёра». У 2005 годзе разам з «гарнякамі» стаў чэмпіёнам Беларусі. Будаеў быў цэнтральным абаронцам. Забіваў няшмат, яго цанілі за надзейнасць.

Па сканчэнні кар’еры застаўся жыць у Салігорску. Працаваў на шахце. Быў аглядальнікам ствала, па якім рабочыя спускаюцца ў шахту.

«Бывае, прыходзіш дадому і трупам кладзешся. Асабліва, калі даводзіцца канаты мяняць», — казаў пра цяжкасці сваёй новай працы Будаеў.

**ЗП**



Камертон Сяргея Ваганава

## Час «чы-ы-ы-ыз»

Апоўначы, калі набліжаецца час паўсоннага забыцця, ці не над самым вухам прагучаў аглушальны выбух. Потым яшчэ, яшчэ. І бясконцая страляніна... Я падскочыў да акна.

За акном было туманна, шэра і сыра. Спакойна свяціліся ліхтары, ішлі, не азіраючыся, рэдкія мінакі, быццам нічога не чуючы... «Мусіць, за горадам, — падумаў я. — Мо які склад выбухнуў... Ды не, гэта ў цэнтры, недзе зусім побач. Але чаму нічога не відаць?»

Я ўключыў тэлевізар. На беларускім канале чарговы канцэрт.

І раптам званок.

«Ты чуеш? — голас жонкі з лякарні быў стрымана трывожны. — Мо на ўсялякі выпадак апранупца? Тут у нас усе апранаюцца...» — «Пачакай, — сказаў я. — А што ты чуеш?» — «Страляюць... здаецца... зусім побач. І нешта гарыць...» — «Не палохайся і не панікуй. Зараз прыеду...» — «Не смей...» — «Ды я за табой прыеду... Вось толькі высветлю...»

У слухаўцы нешта затрашчала, і я пачуў нейкі жаночы лямант: «Так-так, з нашай палаты ўсё відаць... Ля рэзідэнцыі танкі... Чуеце? Там ідзе бой... Даскакаліся... Дагуляліся...» — «Ды супакойцеся вы!» — закрычаў я ўжо ў пустату, што нахабна ўзбуджалася кароткімі, бы джалы, гудкамі.

Тэлефона паверха, адкуль тэлефанавала жонка, я не ведаў. Ведаў толькі, што ад лякарні да прэзідэнцкай рэзідэнцыі метраў трыста, не болей...

Я набраў нумар Уршулі. Ад яе да рэзідэнцыі метраў пяцьсот.

«Сяр’ёжа? — здзівілася яна позняму званку. — Што здарылася?»

...Апошнім разам з Уршуляй, польскай журналісткай, мы сустракаліся заўчора, у нядзелю, на плошчы Незалежнасці, дзе адбываўся чарговы мітынг праціўнікаў Лукашэнкі. Людзей сабралася не больш і не менш, чым збіралася ўвесь лістапад да рэферэндума — тысячы дзве, мо тры. Тыя ж прамовы, тыя ж лозунгі, тыя ж твары і ўсё той жа мегафон з пашарпанай міліцэйскай машыны, што час ад часу хрыпеў звыклымі папярэджаннямі аб адказнасці... Але было ў тым мітынгу і нешта новае, што адрознівала яго ад папярэдніх. Замест трывогі ад невядомасці, чым скончыцца нежартоўны палітычны двубой, і ад напружанага чакання неаднойчы зведанай пратэстоўцамі

**«Гэта «Макдональдс»... — «Які да д’ябла «Макдональдс»?!» — «Яны адчыняюцца. У іх феерверк...»**



бязлітаснасці ўлады з’явілася адчуванне нейкай новай свабоды пратэставаць. Калі двубой прайграны і ўжо загадзя вядома, што пратэст асуджаны на нішто, нікім не будзе пачуты, падтрыманы, і растане ў паветры, як растае пасля стрэлу дым...

Але ў паветры ўжо нават дымам не пахла, хаця з плошчы пратэстоўцы пайшлі па горадзе, а міліцыя і АМАП выстройваліся ў шчыльныя камуфляжныя ланцугі. Асабліва шчыльным быў ланцуг ля рэзідэнцыі прэзідэнта, куды павярнула шэсце і... прайшло міма, пакінуўшы грозную ахову ні з чым.

Між тым шэсце рухалася далей, паслухмяна спускаючыся ў падземныя пераходы і цярпліва чакаючы зялёнага святла там, дзе пераходаў няма. «Паслухай, — сказала Уршуля, — мне ў Польшчы ніхто не верыць, што мінскія дэманстранты пераходзяць вуліцы толькі на зялёнае святло...»

Потым была расійскае пасольства, потым будынак тэлебачання, потым ужо звыклыя арышты і затрыманні арганізатараў.

І аніякіх навін.

...«Ты нешта чуеш? Падобна страляніна... Жонка з лякарні тэлефанавала, што хворых ужо апранаюць... Кажуць, танкі... ля рэзідэнцыі...» — «Паслу-у-хай, — прамовіла Уршуля ў сваёй трохі цягучай манеры. — Што там гаворыць твая жонка?! Гэта «Макдональдс»...» — «Які да д’ябла «Макдональдс»?!» — «Яны адчыняюцца. У іх феерверк... Ну, хочаш, я вазьму сабаку і прагуляюся?» — «Выбачай, дзеля Бога... Дабранач...»

І зноўку званок, жонка: «Гэта «Макдональдс»...» — «Так-так, гэта «Макдональдс», у іх феерверк... Чуеш, ужо скончыўся...» — «Чую», — сказала жонка. І заплакала. Трэці дзень ёй аніяк не могуць паставіць кропельніцу. «Сышлі» вены...

Раніцай я даведаўся, як тое было. У начное метро немагчыма было праціснуцца. Тысячы людзей рынуліся да цэнтра горада, збіўшыся ў агромністы натоўп, які запаланіў галоўны праспект і ўсе, што паблізу, вуліцы і скверы. Натоўп пад грукат феерверачнай кананады рашуча ціснуў АМАП. Дзе-нідзе мільгалі дручкі, пакуль у вузкі праход не выстраілася доўгая — патыліца ў патыліцу —- чарга. Напярэдадні хадзілі чуткі, што ў тую ноч будуць бясплатна раздаваць чызбургеры.

Час «чы-ы-ы-ыз»...

А ўдзень насупраць «Макдональдса», што так шумна ўварваўся ў даволі прэснае мінскае жыццё, ля Нацыянальнага банка, з’явіўся нешматлікі пікет. Людзі пасталі тварам да сцяны, заклаўшы рукі за галовы.

Быў 1996 год, 10 снежня, Міжнародны дзень абароны правоў чалавека...

* * *

2013 год, 13 ліпеня, адкрыццё гандлёвага цэнтра «Мільённы» у Брэсце, халяўны «цукеркавы дождж». Сцвярджаюць, што на галовы людзей арганізатары высыпалі амаль тону цукерак. Але для натоўпу ў 5 тысячаў чалавек — гэтага аказалася мала...

Міжнародны фестываль

Новага этна




# Вольнае Паветра

Feindrehstar (Германія)

Theodor Bastard (Расія)

Namgar (Бурація)

Relikt (Беларусь)

Kriwi (Беларусь)

Масуд Талібані (Беларусь-Курдыстан)

DmiTri Endemic

**24 жніўня**

Кіданне кізякоў
Тралей
Кальяная
Кірмаш
Батлейка
Ёга і шмат іншага

Хутар "Шаблі" (Валожынскі раён)

Падрабязнасці на сайце www.shabli.by

Інфалінія +375 29 140 8000

Квіткі ў касах горада!

ticketpro.by и kvitki.by

**Зміцер Дашкевіч.** Аповесць.

# Чарвяк

**Змест папярэдняй часткі.** *Галоўны герой аўтабіяграфічнай аповесці адседжвае палітычны тэрмін у калоніі на Віцебшчыне. Ён і там пакараны за «парушэнне» – сtaіць у цеснай клетцы між працоўнай і жылой зонамі калоніі. Раптам невядомы зэк кладзе яму ў далонь цукеркі. Так адбываецца знаёмства, якое будзе мець працяг...*

**Працяг. Пачатак у «НН» ад 17 ліпеня.**

— Можа, давай у ніжнюю пасадзіш, каб не валачы кешары гэтыя?

— Не, Зміцер, ніжнія цякуць, давай наверх, — адказаў на маю просьбу старшы змены, мой цёзка, прапаршчык Зміцер.

Прыйшлося цягнуць дзве торбы пажыткаў па вузкай жалезнай лесвіцы, якая пад вострым вуглом злучала адзіночныя камеры першага і другога паверхаў. Паставіўшы рэчы на падлогу, зробленую з навараных прутоў (скрозь іх можна бачыць ніжні паверх), я спусціўся па матрац. Гэтым разам прапаршчык падняўся следам за мною, адчыніў другую ад кута камеру — 20-ю, і з усмешкаю прамовіў:

— Ласкава просім!

— Дзякуй за сэрвіс!

Як толькі дзверы за мною зачыніліся, хуткімі ўдарамі ў сцяну затарабаніў сусед — жыхар сярэдняй з пяці адзіночак на паверсе. Гэта быў маяк на сувязь, і я крыкнуў:

— Гавары!

— Хто заехаў?

— Дашкевіч.

— А-а... І што далі?

— Год.

— Нармальна... Ну дык з новым годам!

— Дзякуй, і табе не хварэць, — адказаў я, зацягваючы рэчы далей, углыб камеры. — Давай пазней перамовім, трэба расклаciцца.

— Добра, — згадзіўся зэк з 21-й, — маякуй, як што!

Для раскладання, у прынцыпе, варыянтаў шмат не было: усёй адзіночкі маёй было метр ушыркі і два ў даўжыню. Адразу ля дзвярэй знаходзіўся пляскаты ўнітаз з кранам над ім. За эканамічным вынаходніцтвам унітаза-ўмывальніка мацавалася да сцяны яшчэ адна знаходка камуна-гулагаўскай інжынерыі — ложак-стол: жалезная нара, да якой знізу прываранны столік у 25 на 25 сантыметраў. Калі нара на дзень падымалася і прышпілялася да сцяны, у хаце з'яўляўся столік. Калі нара на ноч апускалася — столік знікаў. Побач з нараю быў уварaны ў дол жалезны зэдлік, але, аддамо належнае, з прышрубаванаю да яго ў часы «перабудовы» драўлянаю дошчачкаю. На ноч зэдлік знікаў таксама — на яго клалася нара. У сцяне насупраць дзвярэй была даволі вялікая, як для адзіночкі, фортка шырынёю амаль у шырыню камеры і вышынёю трохy больш за метр. Пад акном дзве шырокія трубы служылі батарэяй.

Такіх адзіночак вы не пабачыце ў Беларусі больш нідзе. Так сведчаць стрыжаныя. Толькі тут, у былой, — адной з трох на ўсю краіну Саветаў, — зоне асаблівага рэжыму. Цяпер «асобікаў» сядзіць ў калоніі ўсяго тры камеры, а вось дзесяць адзіночак, для іх прызначаных, служаць усім «страгачам».

Агледзеўшы гаспадарку сваю, я ўзяўся за выкананне галоўнага рытуалу зэка — варкі чаю. Хоча зэк таго ці не вельмі, але, як толькі з'яўляюцца пад рукою кіпяцільнік і разетка, зэк абавязаны заварыць чорнай травы. Калі няма прыладаў для варкі, зэк мучыцца доўга не будзе: раскладзе вогнішча, сцягне агонь з неба ці яшчэ што-небудзь вынайдзе, але травы, чорнай, як ягонае жыццё, заварыць.

Я расклаў нару, якую не замкнулі, — меў права карыстацца ёй і ўдзень: да ўступлення прысуду ў законную сілу я быў у статусе падследнага і сядзеў у адзіночцы на ўмовах агульнага рэжыму. Пашпацыраваць не ўдасца — ад сцяны да нары заставалася сантыметраў трыццаць. «Ладна, яшчэ нашпацыруюся», — думаў я, раскручваючы на жалезным ложку тонкую сваю «вату», на якую з гарачым кубкам у руках адразу прысеў і прыхіліўся да сцяны.

Цяпер можна было выдыхнуць, быццам пераадолеўшы самы цяжкі жыццёвы этап. Этап і сапраўды быў не з простых, але колькі іх яшчэ наперадзе, этапаў гэтых, і дзе канец іхні — ведае адзін Бог. Таму расслабляцца не выпадала. Аднак так хацелася трохy адысці ад рэальнасці, перавесці дыханне, забыць пра ўсё!.. Хаця б на гэтыя шэсць сутак, якія я маю да новага этапу ў невядомасць.

«Здароў, Дзёня!», «Дзёня, здароў!», «Дзяніс, здаровенька!» — віталіся ПКТэшнікі, падымаючыся па жалезнай лесвіцы на шпацыр.

«Здароўкі!», «Вітаю, сябры!», «Здаровенька!» — адказваў зэк з 19-й, вуглавой адзіночкі ля самае лесвіцы.

Так паўтаралася тры разы — у калоніі было тры камеры ПКТ, якія знаходзіліся ў суседнім будынку, што амаль прыліпаў да нашага — тут месціліся і мы, і прагулачныя дворыкі, таму ПКТэшнікі ішлі гуляць паўз адзіночкі.

Завёўшы на прагулку ПКТ, кантралёр падышоў да нашых камер і запытаў у 19-й:

— Зараз на « гулку» пойдзеш ці пасля абеду?

— Давай зараз, — адказаў надта папулярны арыштант з кутняй камеры.

— А ты? — адчыніў старшына вочка ў маёй хаце.

— Давай таксама зараз, — пацвердзіў я і вырашыў падымацца: чатырнаццаць гадзін сну для першага разу дастаткова. Ды хацелася таксама і з ПКТэшнікамі перасекчыся (некаторых ведаў з часу сваёй адседкі ў ПКТ), і карцела пабачыць, што ж за сусед у мяне такі аўтарытэтны.

Апытваць іншыя адзіночкі кантралёр не пайшоў — шасці прагулачных дворыкаў на ўсіх не хапала, і змена вымушана была выводзіць на прагулку яшчэ адну партыю, замест таго, каб сядзець спакойна пасля абеду і пацягваць «купчык».

Кантралёр завёў суседа і прыйшоў за мною.

— Пайшлі, — кіўнуў ён, адчыніўшы дзверы.

— Пайшлі.

Мінуўшы невялікі пакой, які аддзяляў адзіночкі ад дворыкаў, я адчыніў дзверы на вуліцу і ступіў на дах. Такіх дзівосных дворыкаў для прагулкі няма больш нідзе. Мала таго, што на даху, дык яшчэ і сцен не маюць: замест іх — краты. Можна пабачыць зэкаў з суседніх камер, назіраць за цудоўнымі краявідамі: возерам, лесам, дарогаю за ім, а потым ізноў возерам, лесам, прыгожымі дамкамі дзіўнага краю блакітных азёр, кляштараў і зонаў.

— Здаровенька! — павітаўся я.

У адказ загучала некалькі галасоў. Я зайшоў у апошні дворык. Перада мною адзін быў вольны, у наступным гуляла чалавек шэсць, у іншых таксама соўгаліся шэрыя постаці.

— Ну як ты, Дзімыч, асудзіўся? — запытаў Віталя, адзін са знаёмых мне па ПКТ асуджаных.

— Дык, дзякаваць Богу, асудзіўся.

— Ведаем мы ўжо, ведаем. Нармальна адважылі табе, мы тут не думалі, што столькі дадуць.

— Ды я і сам не думаў. Спачатку не думаў, што пачнуць круціць; потым не думаў, што раскруцяць; потым — што так адважаць. А далей лепш ужо нічога і не думаць.

— Так, бо ёсць у артыкула чатырыадзін-адзін пачатак, і няма ў яго канца, — агучыў філасофію ўсіх парушальнікаў рэжыму адзін з зэкаў і, сустрэўшыся са мною позіркам, запытаў. — Памятаеш мяне?

Твар быў быццам знаёмы.

— Алег мяне зваць у каранціне, у Горках, гарбату мы пілі, фоткі я свае табе паказваў?

— Ага, было такое, — узгадаў я. — Ты прабач, не заўсёды прыгадаеш адразу — столькі гэтых турмаўэтапаў-зонаў. А ў Горках, што я там: пару дзён каранціна і — у ізалятар, а як выйшаў, дык вас ужо па атрадах раскідалі.

— Ну так, павалтузілі цябе. Але я сачу за табою! — рапартаваў Алег. — Чытаю ў «Народнай Волі» пастаянна. Ты — маладзец, руліш граматна.

— Граматна? — тут такі выраз азначаў, што я сам сабе шукаю прыгодаў. — Век бы грамацейства гэтага не бачыць. Я проста не магу дазволіць перамалаціць сябе, ды яшчэ каб задарма, патлумачыў я сваю граматy і дадаў рэалістычную ацэнку. — Канечне, могуць зжэрці, але хаця б пару чалавек падавіцца.

Прайшоўшы пару разоў па клетцы, узгадаў я добрым словам беснаватую горацкую калонію і запытаў:

— А што, чытаюць такія газеты яшчэ ў Горках?

— З цяжкасцямі. Гэта ўжо, як ты паехаў, блатныя хадзілі і забаранялі «Народную Волю», «Белгазету» падпісваць. А як не, каму — у мазгі, каму — «рамсоў» навешаюць, ты ж ведаеш, як яно там робіцца, калі хто супраць операддзела.

— Ага, трохy сербануў.

— Ну во, сам не разумею — як выграб? — выказаў здзіўленне Алег і зацягнуўся цыгарэтаю. —Я ж там па справе пісаў усё, і ў «Белгазету» дасылаў некалькі разоў, але ў Горках не выпускаюць такое. Паскандаліў потым з блатнымі, далі паўгода ПКТ і адразу вывезлі. Ды і дзякуй Богу! Зараз, во, хоць дасылаў у «Белку» дакументы свае. Мо хаця б яны разварушаць што, бо спадзявацца ў гэтай дзяржаве няма на каго.

— Гэта так, спадзявацца можна толькі на скуру сваю, — згадзіўся я і вырашыў пацікавіцца яшчэ пра лёс аднога свайго завочнага сябра, каторы сербануў у Горках за мяне добра. — А што, Ладноў Дзяніс, вызваліўся?

— Ну так, выйшаў з ПКТ і праз тыдзень— на волю.

— Дык а прыязджалі да яго з праверкамі?

— Былі нейкія, але ён пайшоў у адмову: не было такога, я — ні я.

— Як так? Яго ж там пры мне калацілі... Сіні як ізалента быў, — не мог зразумець я такой «адмовы», узгадваючы, як лупілі Дзяніса на «прадоле» ізалятара і, каб не чутны быў ягоны дзікі роў, цягнулі па падлозе ў лазню. Лазня ў Горках выконвае дзве функцыі: пакой для мыцця, дзе зручна раз на тыдзень адшараваць гразь, і пакой для біцця, дзе яшчэ зручней збіваць біялагічную адзінку пад назваю «зэк»: па-першае, ніхто не чуе, а, па-другое, хутка змываецца кроў са сценаў і падлогі — толькі пару тазікаў вады і трэба.

— Ты што, не разумееш, што такое «дзявятка»? Гэта цябе там — ды яшчэ з адвакатам — пабойваліся. А так — праверка прыехала і паехала, а людзям жыць потым як? Ды нават калі і пакажаш пабоі, як дакажаш, што ця блатныя з мусарамі валтузілі? А потым прыйдуць блацюкі ў камеру, паламаюць косткі і 'шчэ ў «петушатню» загоняць. Колькі там такіх выпадкаў было!

— Самае парадаксальнае, што церпяць жа, рабы!.. Ды і з гэтымі, беснаватымі, ніхто нічога зрабіць не можа, — выказаў я самае для мяне незразумелае.

— Чакай, прыйдзе іх час. Адзін такі быў вызваліўся, пасля знайшлі з паламаным хрыбтом. Хутка дадуць справаздачу і ванькі з петраковічамі, — упэўнена і пасміхаючыся сцвердзіў мой горацкі знаёмы.

— Ёсць жалезны закон быцця, які яшчэ ніхто не перахітрыў: што пасее чалавек, тое і пажне, — падалося мне неабходным удакладніць.

— Гэта таксама праўда, — кіўнуў Алег, закурваючы наступную. — Во, Кавалёва ж знялі.

— Да ты што, ён жа помнік?! — здзівіўся я, узгадваючы начальніка горацкай зоны, які такім шалёным лямантам гарланіў на мяне, выпісваючы ізалятар, што я не мог разабраць ані слова. Ягоны намеснік Лапатка перакладаў мне: «Пшол во-о-он!»

— Бывае, і помнікі падаюць, — трапна адзначыў суразмоўца. — Прыехала праверка на промку, быццам бы выявілі процьму чорных схемаў, па якіх муцілі з мэбляй і лесам. Некалькі галоваў паляцела. Мо самі хутка некаторыя апрануць?! — Алег патрос рукою на грудзях робу.

Сапраўды, часам шанец апрануць робу выпадае і тым, хто сёння сам зэкаў у гэтую робу апранае. Але толькі ў тым разе, калі загрaбаў персанаж і не дзяліўся. А калі «распіл» адбываецца на ўсе лапы, якія справу робяць і якія не кантралююць, дык схема жалезабетонная, і стаіць доўга. Амаль вечна... «Дык няўжо хапугі ўсе начальнікі зонаўскія?» — законна абурыцца хто-небудзь. Не, канечне, — паўсюль ёсць людзі сумленныя. Але і з гэтага боку ўсё тое самое, што з таго: улада поўная, абсалютная і ніякім абскарджванням не падлеглая. Як утрымацца ад ап'яняльнае спакусы і ўсіх дабротаў, з ёю звязаных? Ясная справа, не дзесяць мільёнаў, але нават калі пару тысячаў рабоў пад тваім абцасам — як тут не абзавесціся сваім Кіраўніцтвам справаў?

*Працяг будзе.*


Усёй адзіночкі маёй было метр ушыркі і два ў даўжыню

**Зміцер Дашкевіч**

Намеснік старшыні Маладога фронту. Быў затрыманы 18 снежня 2010, за дзень да прэзідэнцкіх выбараў, нібыта за бойку і асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі за хуліганства. У 2012 быў асуджаны да яшчэ аднаго года зняволення, нібы за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Выйсці на волю Зміцер Дашкевіч мае 28 жніўня 2013.

# «Басовішча»: хэдлайнерамі сталі «Дзецюкі»

Фестываль беларускай музыкі ў Гарадку — гэта ў польскім Падляшшы, дзе жывуць беларусы — прайшоў 24-ы раз. Яго заснавалі студэнты з руху нацыянальнага адраджэння ў далёкім 1990 годзе. На сёлетнім фэсце арганізацыйнымі пытаннямі займаліся ўжо дзеці заснавальнікаў.

Настаўніца беларускай мовы з Беластока Аліна Вайранюк не прапусціла ніводнага «Басовішча», нават калі былі маленькімі дзеці. Сёлета сын Аліны і Міколы Вайранюкоў — арганізатар фэсту.

«Большасць арганізатараў сёлетняга «Басовішча» — мае выпускнікі. Некалькі гадоў назад я іх вучыла беларускай мове. Для кожнага настаўніка гэта як мёд на сэрца», — кажа Аліна.

Сёлета арганізатары разбавілі музычную праграму фільмамі, маляваннем ды іншымі цікавосткамі. Так, можна было паглядзець нашумелую стужку «Жыве Беларусь». А пасля танчыць пад музыку ў выкананні галоўнага героя — рэпера Вінсэнта.

Тэхнічная арганізацыя была на ўзроўні. Ва ўрочышчы, дзе праходзіў фэст, дзень і ноч прадавалі гарачыя стравы, піва. Удзельнікі оўпэн-эйра жылі ў намётавым мястэчку. Жыццё там вiравала: і днём, і ноччу — песні, гульні ды новыя знаёмствы.

Намётавае мястэчка ахоўвалася, а прыбіральні з рукамыйнікамі ды душавыя кабінкі рабілі знаходжанне ў ім больш цывілізаваным.

Нараканні ўдзельнікаў выклікаў спіс музыкаў.

«Няма монстраў беларускай музыкі, заўсёднікаў «Басовішча». Няма ні «Крамы», ні «Нейра Дзюбеля», ні N.R.M. ці Вольскага», — кажа Сяржук Семянюк, часты наведнік фэсту. І ў гэтым ёсць праблема, таму, відаць, сёлета людзей прыехала менш.

Сапраўды, адназначна назваць хэдлайнера (галоўны гурт) оўпэн-эйра было складана. Многія ўдзельнікі казалі, што прыехалі сюды паслухаць гродзенскі гурт «Дзецюкі».

Лідар «Дзецюкоў» Алесь Дзянісаў адзначыў, што на «Басовішча» прыязджаюць гурты, якія там быць не павінны. «Яны ці граюць у беларушчыну, ці проста не маюць да яе ніякага дачынення. Такія модныя гурты, якія трэба паклікаць», — кажа Дзянісаў.

Іншы наведнік «Басовішча» Яўген Скрабутан ездзіць на «басы» не столькі дзеля музыкі, а каб сустрэцца з «басовішчанскімі» знаёмымі.

Аляксей Валабуеў, часты слухач фестывалю, лічыць, што наяўнасць значнай колькасці польскіх гуртоў у праграме — з'ява цалкам нармальная. «Хоць гэта і беларускі фэст, але ж усёткі ён у Польшчы», — кажа хлопец. Але ў цэлым сёлетняе «Басовішча» не падкачала, нягледзячы на надвор'е.

Хто жадаў, той танчыў да страты прытомнасці, спяваў да зрыву звязак песні на беларускай мове ці ўволю размахваў белчырвона-белым сцягам, якіх, як заўсёды, было багата.

**Аксана Рудовіч, Ірына Арахоўская**




**Басовішча**

Першы буйны фестываль незалежнай музыкі Беларусі. Адбываецца на Беласточчыне, пад Гарадком, ва ўрочышчы Барык. Сёлета прайшоў у 24-ы раз. Яго заснавалі беларусы Беласточчыны ў далёкім 1990, а фінансаванне дае польскі ўрад. За гады існавання фестывалю на ім гралі ўсе гурты першага эшалону беларускага року — «Крама», «Уліс», N.R.M., «Нейра Дзюбель», Zet, «Палац» — наведалі фэст дзясяткі тысяч людзей.



# Самы шчыры панк

Вольскі і Шаблінскі згадваюць лідара гурту **«Кароль і шут»**.

У 39 гадоў паміраюць або ад сэрца, або ад дурных звычак. Прычынай смерці лідара гурту «Кароль і шут» Міхаіла Гаршанёва, вядомага пад мянушкай «Гаршчок», называюць сардэчную недастатковасць. Яна, мабыць, звязана з ужываннем наркотыкаў.

За жыццё Гаршанёў перанёс восем клінічных смерцяў, а ў сакавіку звярнуўся ў клініку каб пазбавіцца ад наркатычнай залежнасці. Але запозна.

«Кароль і шут» — іх песні слухалі людзі з рознымі музычнымі густамі. «Гаршчок» стварыў адметны стыль. Гэта былі нібы казкі Гофмана XXI стагоддзя: паданні пра з'едзеных жонак і шалёных цырульнікаў выяўлялі і цёмныя бакі людской натуры, якія могуць хавацца за «звычайным» жыццём.

«Мы выступалі з імі, як толькі ўтварыўся наш праект Zet, — узгадвае Лявон Вольскі. — Яны былі прыемныя хлопцы, без зорнай хваробы. У першы свой тур па Беларусі яны ездзілі на машыне Валодзі Шаблінскага. У іх быў унікальны «казачны» фармат у песнях, чаго ў СССР і пасля ніколі не было — гэта вабіла».

«Гаршанёў быў сапраўдным рокн-рольшчыкам, — узгадвае прадзюсар Уладзімір Шаблінскі. — Ён жыў і адчуваў па формуле Міка Джагера: сэкс, наркотыкі і рокн-рол. Менавіта наша «Лінія гуку» ўпершыню прывезла «Караля і шута» ў Беларусь. Мы з Гаршчком сябравалі, гэта быў вельмі таленавіты і шчыры чалавек. Ён для свайго пакалення стаў нейкай рэінкарнацыяй Высоцкага, прынамсі, я так яго адчуваю. Дакладна скажу: па пранізлівасці і шчырасці ягоныя тэксты можна параўнаць з тэкстамі Высоцкага. Калі гурт стаў звышпапулярным, вакол музыкаў і Гаршчка як вакаліста збіраліся спецыфічныя людзі, якіх цікавіла камерцыя, якія цягнулі «Караля і шута» ў шоубізнэс. Гэта адыграла негатыўную ролю ў лёсе Гаршанёва».

**Юрась Ускоў**

## Сціісла

### Андрэй Федарэнка выходзіць з Саюза пісьменнікаў Чаргінца

Федарэнка — адзін з самых арыгінальных сучасных аўтараў. Яго кнігі два гады запар уваходзяць у шорт-ліст літаратурнай прэміі Гедройца. Летась ён пакінуў працу ў газеце «ЛіМ».

Саюз пісьменнікаў Беларусі быў створаны ў 2005 літаратарамі, якія падтрымлівалі Лукашэнку. На чале ўстаў генерал Мікалай Чаргінец. Уступіць у СПБ былі вымушаны фактычна ўсе пісьменнікі, хто працаваў у дзяржаўных структурах.

### Памёр акцёр Дэніс Фарына

Яму было 69 гадоў, амаль 20 з іх Фарына адпрацаваў у чыкагскай паліцыі. Яго запрашалі на фільмы ў якасці кансультанта, пасля прапанавалі здымацца. Зоркай яго зрабілі ролі інспектара Майкла Тарэла ў «Крымінальнай гісторыі», дэтэктыва Джо Фантаны ў серыяле «Закон і парадак», кузэна Аві ў фільме Гая Рычы «Вялікі куш». Прычынай смерці акцёра стаў тромб у лёгкіх.

### У Мінск вязуць Андрэеўскі крыж

X-падобны крыж, на якім, паводле падання, прыняў пакутніцкую смерць святы апостал Андрэй Першапаклікааны, прывязуць у Мінск 28 ліпеня спецыягнікам. Назаўтра а 8.00 крыж вынесуць на Замчышча, дзе патрыярх Маскоўскі Кірыл адслужыць літургію. Пасля крыж будзе дастаўлены ў храм-помнік у гонар Усіх Святых, дзе застанецца да 2 жніўня. Доступ да святыні будзе кругласутачным.

### У магілёўскіх тралейбусах з'явіліся вершы

Магілёўцы могуць азнаёміцца з паэзіяй Багдановіча, Мацяш, Вярцінскага проста ў грамадскім транспарце. З'явіцца ў тралейбусах і вершы магілёўскіх паэтаў. Вывешванне паэтычных старонак у тралейбусах працягнецца да канца года.

**СМ**

# «Аддам у добрыя рукі стол Караткевіча»



Такую прапанову агучыў у інтэрнэце пісьменік Адам Глобус. За гэтым сталом, кажа ён, Уладзімір Караткевіч напісаў «Каласы пад сярпом тваім» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Пазней, калі класік з жонкай набылі новы вялікі стол, гэты аддалі на лецішча суседзям, сям'і Адамчыкаў.

Абавязковая ўмова Глобуса — каб стол застаўся ў Мінску і каб быў даступны для грамадскасці. «Мне хочацца стварыць рэзананс і размову вакол гэтай рэчы. Людзі згодныя забраць стол, нават у Амерыку звезці. Але пакуль ён будзе стаяць у некага — застанецца прыватным аб'ектам. А ён павіненператварыцца ў практычна музейную рэч», — кажа Глобус.

**Таццяна Гусева, Gazetaby.com**

# Ва ўнутраных войсках любяць родную мову

У абедзенны перапынак часта праходжу міма в/ч 5448 Міністэрства ўнутраных справаў, што на вул. Маякоўскага, 97 у Мінску.

Тамтэйшыя байцы ў гэты час займаюцца страявой падрыхтоўкай: маршыруюць, спяваюць. І якім было маё прыемнае здзіўленне, калі я аднойчы пачуў з іх вуснаў песню на беларускай мове! З таго часу я пачаў уважліва прыслухоўвацца да таго, што даносіцца з-за плота часці. Праз колькі дзён зноў пачуў беларускамоўны спеў ад хлопцаў, што чаканілі крок па дарожцы. Раз — выпадковасць, два — заканамернасць. А калі так, то ёсць сэнс падзякаваць вайсковаму кіраўніцтву.

Напісаў тры лісты са словамі падзякі на адрас в/ч 5448, у МУС і Міністэрства абароны, бо, на маю думку, песні на нашай мове спрыяюць здароваму патрыятычнаму выхаванню вайскоўцаў. У адказ атрымаў ліст ад выканаўцы абавязкаў камандзіра часці 5448 палкоўніка Э. Міцкевіча, у якім той запэўніў, што «в репертуаре подразделений в обязательном порядке имеются патриотические строевые песни на белорусском языке». А ў лісце з МУС намеснік камандуючага ўнутранымі войскамі, кіраўнік аператыўнай і баявой падрыхтоўкі міністэрства А. Маткін падзякаваў за мой зварот і выказаў упэўненасць, што «і далей камандаванне вайсковай часці 5448 у мэтах грамадзянска-патрыятычнага выхавання падначаленых будзе спрыяць выкарыстанню беларускамоўных твораў».

Нядаўні выхад фільма «Жыве Беларусь!» звярнуў увагу грамадскасці на праблемы роднай мовы ў беларускім войску. Канечне, стваральнікі стужкі прапанавалі мастацкае, гіпербалізаванае бачанне сітуацыі. Спадзяюся, у рэальнасці не так усё і дрэнна.

На жаль, не дачакаўся ліста ад Мінабароны, хаця тэрмін, адведзены заканадаўствам на адказ па звароце грамадзян, ужо мінуў.

А шкада: так хацелася б даведацца хоць афіцыйную пазіцыю кіраўніцтва войска па моўным пытанні. Бо ў душы застаецца надзея, што там усведамляюць важнасць выхавання нацыянальных каштоўнасцяў сярод салдатаў. Бо сапраўды бараніць Айчыну можа толькі той, хто служыць не нейкім там абстрактным касмапалітычным ідэалам, а найперш нацыянальным. Бо толькі тады ён будзе служыць Радзіме і народу. А мова наша — найвыдатнейшы інструмент у выхаванні павагі да нацыянальных каштоўнасцяў.

**Алесь Герасіменка, Гатава**

# Сатаністы

Быліца.

Зіма сёлета моцна трымалася, але ўрэшце наступілі цёплыя дзянькі. Сышоў снег, падсохла, выявілася многа бруду, смецця, схаваных пад снегам.

Набліжаліся майскія святы, і гаспадары наводзілі парадак на панадворках. Управіўшыся, Вернік вырашыў упрыгожыць сваю хату.

Па тэлевізары ён бачыў, што ў праваслаўных епіскапаў святочнае адзенне апаясанае бел-чырвона-белай паласой. З кніг Вернік даведаўся, што гэта значыць: Кроў Хрыста на Плашчаніцы. Высока над хатай узнёс бел-чырвона-белы білборд, такім чынам ушанаваў памяць нашага Збаўцы. Задаволены працай, Вернік прысеў на лаўку адпачыць.

Дзень толькі пачынаўся. Аднекуль з-за вугла з'явіўся няголены, «пад мухай», Васька, а за ім — яшчэ некалькі яго сяброў. «Дапамажы, гаспадар, трубы гараць, галава трашчыць. Дай на «чарніла», будуць грошы — аддамо», — заклянчылі выпівохі.

«Не, хлопцы, на віно не дам, а вось расолам пачастую». Мужыкі з прагнасцю асушылі трохлітровы слоік агурковага расолу. Падзякаваўшы, рушылі шукаць грошай на бутэльку.

А Вернік задумаўся: чаму чалавек співаецца, губляе людское аблічча, увесь сэнс жыцця зводзіцца да пошуку бутэлькі? «Чарніла» ў параўнанні з кілбасой таннае. А, можа, няма ў чалавека стрыжня, мэты?

Гэтую праблему Вернік вырашыць не мог. А калі на дапамогу паклікаць святы сімвал? І Вернік на бел-чырвона-белы сцяг змясціў «Пагоню» (афіцыйны герб Віцебскай вобласці). «Можа, святы сімвал неяк прыпыніць гібель беларускага народа хоць бы ў адной вобласці?» Для прыгажосці па баках размясціў беларускі арнамент.

Закончыўшы працу, Вернік адыйшоў метраў на пятнаццаць. Прыгажосць! Нездарма кажуць, што прыгажосць уратуе свет. Мо і слабаму чалавеку дапаможа перамагчы «зялёнага змея».

Але нядоўга музыка гучала! Убачыў Нячысцік святы сімвал і затросся ад страху і злосці: убачаць Сатана ці яго васалы гэты сімвал, адправяць Нячысціка простым рабочым у пекла, дзе смуродна, душна, енкі, мацюкі.

А так было шыкоўна! Вялікі аклад, дзяржаўная машына, да свята прэмія ў канверціку, нарэшце, высокая пенсія па старасці.

Не, за выгоды трэба змагацца.

Нячысцік пачаў дзейнічаць. Паслаў ён Вампіра да калгасных кароў набраць крыві з жылаў, каб цямнейшая была. Сынка свайго Нячысцік адправіў у калгасную канюшню, дзе яшчэ засталіся трое коней. Наскуб валасоў з хваста, зрабіў файны пэндзлік. Два хаўруснікі Нячысціка прыперлі ад суседа старую доўгую драбіну, бо білборд высока знаходзіўся.

З нецярпеннем дачакаліся ночы, калі ўсе добрыя людзі адпачываюць. Сам Нячысцік (а меў ён пад восем пудоў вагі), узяўшы вядро з крывёю і пэндзаль, палез наверх. Драбіна хісталася і патрэсквала. Было боязна, але іншага выйсця не было: пужала перспектыва ПЕКЛА.

Абліўшыся крывёю, так-сяк запэцкаў бел-чырвона-белы святы сімвал разам з «Пагоняй» цёмнай крывёю. З цяжкасцю пачаў спускацца. Ногі дрыжэлі, у горле перасохла, па спіне цяклі ручаінкі поту. Раптам на сярэдзіне драбіна хруснула і Нячысцік грымнуўся на зямлю, а верхні канец драбіны ляснуў Вампіра па галаве. Так ім і трэба.

Ачуняўшы, сатаністы вырашылі «замачыць» зробленую справу. І ракой палілася медавуха. Пілі-елі што хацелі. Сталы аж ламаліся ад напояў і закусак. Хаўруснікі не думалі, што грэх тых, хто прадаў душу Сатане, ляжыць не толькі на іх, але і на нашчадках.

Дзеці, унукі, праўнукі не будуць разумець, за што на іх адна за другой навальваюцца беды. Яны ж нічога дрэннага не рабілі, не робяць. Сучаснікі! Помніце пра адказнасць перад перад сваімі нашчадкамі.

Гэтыя сатаністы пра нашчадкаў не думалі. Оргія працягвалася да раніцы.

Было гэта пад Свілам у ноч перад Вялікаднем.

**Марат з-пад Полацка**

# Беларуская глыбіня. **Кралі і будзем красці**

Піша Павел Севярынец.



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

*А мытнік, стоячы воддаль,*
*Не адважваўся нават*
*Падняць вочы да неба;*
*Але, б'ючы сябе ў грудзі*
*Казаў: Божа! Будзь*
*літасцівы*
*Да мяне, грэшніка!*
*Лукі 18:13*

- Пілі і будзем піць! —здаравезны мужык, што падвозіць мяне да царквы на зачыненым абшарпаным белым бусе, у адказ на мае маралі з усяе сілы лупіць кулаком у стырно, — Кралі і будзем красці!

«Немец» нервова ўздрыгвае і калоціцца, ці то ад ямаў на дарозе, ці то ад уладарнага ўдару, ці то ад грымотападобнага басу. О, колькі спірту, цыгарэтаў ды каляровага лому перавёз гэты палонны «фалькскваген» праз бліжэйшыя межы — не снілася аніякаму Гудэрыяну, генію тылавога забеспячэння, танкаваму генералу, што ужо на другі дзень вайны абсталяваў пад свой штаб пружанскі Палацык.

Кіроўцу, плячыстага бугая, можна лёгка ўявіць і разбойнікам, які выходзіць на шлях з чаканам, і савецкім партызанам, што, ярасна дыхаючы, прэ з вёскі ў лес тушу рэквізаванага вепрука, і ваяром, які глыбей насоўвае на галаву шалом перад Грунвальдам.

Яны такія, ціхія героі нашага часу. Каржаватыя. Суворыя. Ведаюць цану жыцця, смерці і дзвесце дваццаць восьмага артыкула крымінальнага кодэкса. У заўсёдных трэніках, моўчкі адмыкаюць гараж; сапучы, распіхваюць ва ўсе шчыліны салона ды кузава *дабро*, выходзяць на двор, дастаюць з задняе кішэні зашмальцаваную мабілу, чэшуць грудзі і буркаюць: « Ну давай там... Як заўсёды, ага...»

— А ў кантрабандыста сталёвыя нервы, ён гуляе ў цэмры ў небяспечныя гульні... Так і плыве, і віруе праз межы эпохаў ды гушчары, затканы імглою, «Народны альбом».

На Каменным Логу затрымана 30 тысяч кантрабандных ружаў... У Гродне выяўленая фура з няўлічанымі камп'ютарнымі камплектуючымі на мільён даляраў... У Мінску канфіскавана 10 тон нелегальных бананаў на мільярд рублёў... Дзясяткі тысяч дзіцячых шапачак без аніякіх дакументаў... Дзесяць вясельных галубоў у скрыні для пальчатак...

З амаль 30 мільярдаў штук цыгарэтаў, што вырабляюцца ў Беларусі за год, 10 мільярдаў вывозіцца за мяжу краіны кантрабандай. Гадавы зварот ценявога цыгарэтнага бізнэсу ацэньваецца ў 690 мільёнаў даляраў. А колькі мы там вымольваем з чарговым расейскім траншам?

Мяжа з Украінай — пад 900 км. Мяжа з Расеяй — каля тысячы. Мяжа з Еўразвязам — 1,3 тысячы кіламетраў. Вось і лічыце.

І можна толькі здагадвацца, колькі мільярдаў складае кантрабанда самога рэжыму. Праслаўтыя *раствaральнікі*, продаж зброі ў абыход санкцыяў і «вокны» на мытнях, калі міма чэргаў зачараваных дальнабояў праходзяць караваны трэйлераў ды эшалоны цыстэрнаў, даюць толькі туманнае ўяўленне: пяць блокаў цыгарэт, затараныя замест паветранага фільтра ў «газелі» пружанца — лёгкая зацяжка.

Але ж якія партыі для кантрабаса з аркестрам выконваюцца людзям на памежным стане душы!.. Вось знакаміты берасцейскі «спіртавоз». Беларускі народ увальваецца ў вагоны, выломвае сядзенні, здымае борцікі ды смецевыя бачкі, агаляецца, з трэскам здзірае з сябе серпантыны скотчу ды пералівістых пакункаў, запоўненых мутнай вадкасцю, піхае іх ва ўсе дзіркі... заціхае да мяжы, шклянымі вачыма глядзіць міма мытнікаў, каторыя ўсё ведаюць і каторым даўно абрыдлі гэтыя невідушчыя і запляваныя раніцы... а потым раптам зрываецца з месцаў, з грукатам адчыняе фрамугі і пачынае шпурляць пад адхон скруткі — быццам цягнік знянацку атакавалі вампіры.

Такім чынам: што незаконна ўвозяць у Беларусь? Машыны, бытавую тэхніку, вопратку, ежу, золата, дыяменты.

А вывозяць з Беларусі?

Цыгарэты. Спірт. Наркотыкі. А яшчэ — будучых прастытутак.

З Еўропы — лепшае жыццё ў асартыменце.

З Беларусі — поўны набор граху.

Увозім дабро.

Вывозім зло.

Няўжо злачынства — абкрадаць рэжым, які абкрадае нас? Анягож: тады мы самі проста робімся такімі, як яны.

Вядома, возяць, каб забяспечыць сям'ю; вядома, што насамрэч беларусы цяністымі сцежкамі праз раскроеныя акупантамі межы цягаюць скрыні да такіх жа карэнных беларусаў Падляшша, Віленшчыны, Смаленшчыны, Латгаліі...

Але ж: гэта крадзеж.

Пагадзіцеся, адно — нелегальна перапраўляць шрыфты і паперы для друку Біблію ў падсавецкую Беларусь, маючы з гэтага не прыбытак, а смяротную рызыку; другое — вывозіць з Ваўкавыска да гайнаўскіх сваякоў кабанчыка, забітага ў час афрыканскай чумы, прычым, магчыма, з той самай чумой; і ўжо зусім трэцяе — у прамысловых маштабах перці да суседзяў выпіўку, курыва... герaін... што там далей? Афганскіх падлеткаў?... цэлы вагон міс Брэст?...

Пружаны — ціхая сталіца дробнай беларускай кантрабанды. Польшча. Украіна. Расея. Літва... Растуць, растуць на ўзлесках Белавежскай ды Ружанскай пушчаў за высокімі платамі катэджы, быццам састаўленыя з агромністых цыгарэтных блокаў.

А навошта працаваць за тыя тры мільёны беларускімі, калі адзін удалы цыгарэтны рэйс — і маем тысячу еўра? Дзеля крэдыту, над якім дзесяць гадоў дрыжаць і расплачваюцца? Дык на старэнькім бусіку за колькі месяцаў збудзеш і болей. Катэдж. Кватэра дзецям. І рассякаюць па дарогах Пружаншчыны «мерсы» ды «бумеры», «Пантыякі» ды «Паршэкайен».

— Не ссы, у нас у раёне толькі тры чужыя, — кажуць тутэйшыя знаўцы дабра і зла. — Начальнік райаддзела, галоўны гэбіст і пракурор. Астатнія ўсе свае.

Усенародна змірымся, што красці, хлусіць і кантрабасіць — норма? Тады не трэба здзіўляцца, што годнасць і свядомасць запіхваюцца ў выпадковыя парожніны, свабода і мараль машынальна пералічваюцца на даляры, а дабро, у рэшце рэшт, паводле выгаднага курсу абменьваецца на зло.

А можа мы, беларусы, так і спадзяемся на жыцці — цішком, з абыякавым тварам ды шклянымі вачыма праскочыць мяжу, якая аддзяляе Рэспубліку Беларусь ад Валадарства Нябеснага? Пачасаць грудзі, зрабіць пару званкоў, націснуць на газ — і праслізнуць у такі блізкі і такі недасяжны рай міма Госпада Бога?..

*Куплін*

**З Еўропы — лепшае жыццё ў асартыменце. З Беларусі — поўны набор граху. Увозім дабро. Вывозім зло**



# Шпіён, які не стаў героем

У 1931 у Глыбокім павесілі Міхаіла Дзмітрыева, завербаванага савецкімі спецслужбамі. Піша **Уладзімір Скрабатун.**

«Акупацыйныя ўлады ў расклееных па ўсім горадку аб'явах сцвярджаюць, што асуджаны — адтуль, з-за граніцы Саветаў, а тут, у «велькай Рэчы Паспалітай», займаўся забойствам, дыверсіямі і шпіянажам.

Яшчэ ўчора пабудавалі там шыбеніцу, і з Варшавы прыехаў кат Мацэеўскі са сваім памочнікам.

Шыбеніцу шчыльным квадратам абкружылі ўзброеныя жандары пры клінках нагола. За шэрагамі жандараў цесным колам стаялі плячо ў плячо паліцэйскія.

...Вось скалыхнулася, загуло людское мора. У заднія рады натоўпу ўрэзаліся клінам конныя жандары. Праз вузкі калідор між людзей павольна пасоўваліся дзве крытыя чорныя аўтамашыны.

— У адной — ахвяра, у другой — кат з пракурорам,— растлумачыў хлопцам Хведар.

Кола паліцэйскіх і шпалеры жандараў расступіліся і, прапусціўшы да шыбеніцы машыны, зноў самкнуліся. У першай машыне расчыніліся дзверцы, з яе крытага кузава вылезла чацвёра паліцэйскіх. Яны вывелі з машыны чалавека са звязанымі рукамі.

Гэта быў шыракаплечы, зусім малады юнак, апрануты ў шэры астрожны балахон.

З другой машыны вываліўся, як гарбуз, вусаты пракурор і два судовыя чыноўнікі. За імі вылез высозны кат і яго памочнік. З-пад яго чырвонага плашча відаць былі па шчыкалаткі чорныя штаны і чаравікі ў галёшах. Твар закрывала эластычная гумовая маска з вузкімі прарэзамі для вачэй.

Перакінуўшыся некалькімі словамі з пракурорам, кат і памочнік ступілі да асуджанага. З абодвух бакоў узялі яго за звязаныя рукі вышэй локцяў і па прыступках павялі пад перакладзіну на эшафот.

...Максім не мог праз фортку пачуць, што гаварылася ў прыгаворы. Да яго слыху даносілася толькі невыразнае мармытанне судовага чыноўніка, але, калі агалошанне прыгавору закончылася, ён выразна пачуў, як на ўвесь голас крыкнуў асуджаны:

— Не бандыт я, людзі! Я — камуніст!

Ён яшчэ нешта выкрыкваў, але слоў яго ўжо не было чуваць — іх паглынуў гром барабанаў. Відно было, як памочнік ката, падскочыўшы да смертніка, стараўся закрыць яму сваёй ручышчай рот. Білі барабаны, гайдалася, як ніва перад бурай, бязмоўная плошча, і каб гук, каб крык ці плач — толькі гром барабанаў.




**Глыбоцкі касцёл, непадалёк стаяла шыбеніца. Фота 1930-х.**



**Пан Мацэеўскі**

Так, у 1930-я, калі ў СССР працавалі тысячы катаў НКВД, якія, праўда, так не называліся, у Польшчы кат быў усяго адзін. Стэфан Мацэеўскі. Ён пачаў выконваць прысуды ў 1927-м і за пяць гадоў працы з двума памочнікамі ўзвёў на шыбеніцу каля 100 чалавек. Звольнілі яго за сістэматычнае п'янае хуліганства, усклаўшы катоўскія абавязкі на памочнікаў. Апошнія звесткі пра Мацэеўскага датаваныя 1936-м: ён спрабаваў засіліцца ў варшаўскім парку. Далейшыя лёс невядомы. Ката Мацэеўскага згадвае у «Чорным замку Альшанскім» Уладзімір Караткевіч.

Вось кат са сваім памочнікам рыўком узнялі асуджанага на табурэтку. Увокамгненне кат ускочыў на табурэтку сам і накінуў асуджанаму пятлю на шыю. Памочнік адступіўся на крок ад асуджанага, кат саскочыў з табурэткі і зірнуў на групу судовых чыноўнікаў з пракурорам — чакаў апошняга знаку. Зноў аглушальна загрукаталі барабаны. Пракурор злёгку кіўнуў барадой — кат выпрастаўся, абвёў сваім страшным позіркам натоўп і, гахнуўшы, модным ударам-выспяткам выбіў з-пад ног асуджанага табурэтку...

Хутка, як і збіраліся, пачалі разыходзіцца людзі з плошчы. Шматтысячны натоўп, як развеяная ветрам хмара, таяў і расцякаўся па вуліцах і завулках. Ад'ехалі і тыя дзве чорныя «магды» — аўтамашыны, адвозячы пракурора з судовымі чыноўнікамі і ката з памочнікам. Пастроіліся ў калоны паліцэйскія і жандары і над барабанны пошчак пакінулі плошчу.

— Ну вось і застаўся ты, таварыш Міхаіл, адзін са сваім вечным спакоем,— прамовіў прачула Хведар, калі ў пакоі засталіся толькі ён ды Максім з Андрэем».

Гэты тэкст належыць пяру заходнебеларускага пісьменніка Міхася Машары, ураджэнца цяперашняга Шаркоўшчынскага раёна. Раман «Крэсы змагаюцца». У адным з герояў рамана — Шамраі — угадваецца сам Машара. Перастуўце літары сіметрычна!

Падзеі, апісаныя ў рамане, адбываюцца за «часам польскім» на тэрыторыі сённяшняй Глыбоччыны. Эпізод, прыведзены вышэй, — пакаранне смерцю ў 1931-м, паводле выраку суда, камуніста Міхаіла на прыкасцёльным пляцы ў Глыбокім.




**Беларусы ў Другой Рэчы Паспалітай былі народам, які не меў базавых нацыянальных правоў — на развіццё роднай мовы, дзяржаўнае самавызначэнне. Гэта падмянялася этнаграфіяй. На фота: «Дажынкі» ў Глыбокім, пачатак 1930-х.**

Доўгія гады думаў я, што гэта — мастацкая выдумка аўтара. Ну, захацеў, напэўна, паказаць гаротны лёс беларускага народа пад ярмом польскіх акупантаў. Бо інакш чаму ў Глыбокім няма ні вуліцы, ні школы імя таго камуніста?

### «Даём табе званне лейтэнанта»

Пасля, у пачатку 1990-х, Язэп Бунто, глыбоцкі краязнаўца і энцыклапедыст, ды настаўнік Глыбоцкай СШ№3 Іван Сяргеевіч Храпавіцкі расказалі мне, што такі выпадак быў. Яны былі ў віленскім архіве, трымалі ў руках крымінальную справу Міхаіла Дзмітрыева.

Акалічнасці справы такія: Міхаіл Дзмітрыеў, жыхар Глыбокага, пераходзіць польска-савецкую мяжу недзе ў раёне Кублічаў (Ушаччына), трапляе ў рукі чырвоных памежнікаў, што натуральна, — і ў рукі чэкістаў.

— Якая мэта пераходу дзяржаўнай мяжы?— пытаюць чэкісты.

— Хачу жыць у савецкай краіне, вучыцца ў Ленінградзе, — кажа перабежчык.

Ён не паехаў капаць Беламорканал, як шмат іншых такіх жа самых перабежчыкаў з Глыбокага. Праўдападобна, шчырае жаданне Міхаіла Дзмітрыева «вучыцца ў Ленінградзе» гучала перакануўча...

— Не, у Ленінград ты не паедзеш! Даём табе званне лейтэнанта. Вяртайся назад, будзеш працаваць на нас...

Дзмітрыеў вярнуўся ў Глыбокае, дзе займаў пасаду дарожнага майстра. Глыбокае ж — цэнтр Дзісенскага павета. Было староства — павятовая ўправа, дзе ён і працаваў. Таму ягоныя паездкі ў Падсвілле, дзе стаяў батальён Корпуса аховы памежжа, а таксама ў блізкія да мяжы Зябкі і Празарокі, не выклікалі ў польскіх «ужэндніках» ніякіх падазрэнняў. Работа такая! Знайшоў сабе Міхаіл і супольніка.




**Надмагільны помнік Міхаілу Дзмітрыеву на цвінтары Дуброва ў Глыбокім.**

### Згубілі спіс

Усё ішло б гладка... Але такі пракол! Выходзячы з вагона цягніка, згубілі гэтыя два шпіёны спіс. А гэта ж — памежная зона, праз Галубіцкую пушчу пралягае мяжа, ад Докшыцаў да яе — 8 км.

Праваднік вагона падымае паперку... А там — спісы паліцыянтаў па вёсках, колькасць жаўнераў у гарнізонах, узбраенне. Поўная раскладка!

Глыбоцкай дэфензіве не каштавала вялікіх высілкаў вылічыць двух савецкіх шпіёнаў. З матэрыялаў крымінальнай справы вынікае, што таварыш Міхаіл раскрыў усе акалічнасці вярбоўкі і супрацоўніцтва з савецкай выведкай. Калі, як і колькі заплацілі. Як кажуць у народзе — «здаў усе паролі і яўкі». Трэба меркаваць — не без катаванняў.

Няўдалых шпіёнаў асудзілі да пакарання смерцю. Аднак супольніка Міхаіла Дзмітрыева прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі памілаваў. Міхаіла ж павесілі.

Калі верыць яго сваякам, якія жывуць у Глыбокім, шыбеніца стаяла на сённяшнім пляцы 17 Верасня, дзе цяпер фантан і дзе летась была ўсталяваная бронзавая кніга да Дня беларускага пісьменства.

### «Масква не прызнала героем»

Пахаваны Дзмітрыеў на цвінтары Дуброва, што ля глыбоцкай аўтастанцыі, на надмагільнай пліце, напісана: «Дзмітрыеў Міхаіл Іванавіч 1904—1931. Вечная памяць камсамольцу патрыёту, які загінуў у барацьбе з белапалякамі».

Хоць якія «белапалякі» ў Глыбокім у 1931 годзе! Тэрміналогія часоў грамадзянскай вайны.

Як бы хто ні ставіўся да ўчынку Міхаіла Дзмітрыева, але, па ўсёй логіцы, у савецкія часы ў Глыбокім у гонар яго мусіла б быць названая вуліца, яго імя мусіла б насіць адна са школаў Глыбокага, піянерская ці камсамольская дружына. Родныя мусілі б атрымаць хоць нейкую маральную ці грашовую кампенсацыю. Але не! Ведаю, што многія — і сваякі, і проста камсамольцы — спрабавалі гэтага дабіцца, пісалі запыты ў Маскву... Але такой вуліцы ў Глыбокім няма! Чаму?

Здагадку выказала адна пенсіянерка, колішняя глыбоцкая радыёжурналістка: «Масква не прызнала яго героем. Яму плацілі — ён рабіў справу. Герой мусіў працаваць бескарысліва!»

Шпіён, які так і не стаўся героем — ні ў часы СССР-БССР, ні ў часы незалежнай РБ. Значыць, барацьба была не за ідэю, а за грошы? А мне шкада чалавека! Няўжо ўсе штатныя савецкія шпіёны на Захадзе толькі «святым духам» жылі? Дый Глыбокае тады было Захадам!

**Уладзімір Скрабатун**

краязнавец, рэдактар незалежнай газеты «Вольнае Глыбокае».

# Depeche Mode




29 ліпеня на «Мінск-Арэне» — канцэрт культавага гурту Depeche Mode. Гэта першы канцэрт музыкаў у Беларусі. Білеты ад 450 тысяч да 1 мільёна 600 тысяч рублёў. Пачатак а 20-й.

## ФУТБОЛ

### «Мінск» — «Валета»




**25 ліпеня ў Жодзіне на стадыёне «Тарпеда»** адбудзецца гульня другога кваліфікацыйнага раўнда Лігі Еўропы. «Мінск» прыме «Валету» з Мальты. Пачатак а 19. Першая гульня каманд скончылася ўнічыю — 1:1. Білеты загадзя будуць каштаваць 14 тысяч, у дзень гульні — 19 тысяч. Калі прыйдзеш у сіняй ці чырвонай майцы — 5 тысяч.

У той самы дзень у Заграбе мінскае «Дынама» падужаецца з мясцовай «Лакаматывай», а салігорскі «Шахцёр» у Малдове правядзе гульню з «Мілсамі».

## КАНЦЭРТЫ

### Фэст у Вайцюшкевіча

**Фестываль шансону і аўтарскай песні** адбудзецца на хутары Вайцюшкі 3—4 жніўня. У першы дзень выступяць Зміцер Вайцюшкевіч і Зміцер Бартосік, а ў другі — Віктар Шалкевіч.

Сядзіба Вайцюшкі месціцца ў вёсцы Васілевічы, Навагрудскага раёна, у 170 км ад Мінска. Кошт удзелу ў фэсце 80 000 рублёў. Людзям у нацыянальных строях зніжка 25 % . У цану ўключана: купанне ў Нёмане, збіранне грыбоў, юшка)

Дзеці да 12 год — бясплатна.

### Трыб'ют «Азбука року»

**Формула канцэрта: больш за 30 хітоў** Элвіса Прэслі, Біла Хэйлі, Чака Бэры і іншых зорак рок-н-ролу, выдатны гук, танцы да ўпаду і, вядома ж, прызы найлепшай танцавальнай пары вечара. За дзве з паловай гадзіны вы пачуеце практычна ўсю гісторыю рок-н-ролу, пачынаючы з легендарнага хіта «Rock Around The Clock» Біла Хэйлі і сканчаючы «бітлоўскія» версіямі рок-н-рольнай класікі. 25 ліпеня а 19. Дзе: «TNT Rock Club» (вул. Рэвалюцыйная, 9) Білеты: 80 тыс. руб.




## ПРЭЗЕНТАЦЫІ

### «Бэўвульф»

**25 ліпеня** адбудзецца прэзентацыя беларускага перакладу стараанглійскага эпасу «Бэўвульф». Апроч перакладчыка паэмы Антона Францішка Брыля ў прэзентацыі возьмуць удзел:Лявон Баршчэўскі, Ганна Янкута, Кацярына Мацеўская, Ігар Кулікоў, Зміцер Колас. Кнігарня логвінаЎ (Незалежнасці 37а). Пачатак а 19. Уваход — вольны.

## ВЫСТАВЫ

### Наваградскі край

**26 ліпеня а 15 гадзіне ў партрэтнай зале Мірскага замка** адбудзецца ўрачыстае адкрыццё выставы мастацкіх твораў К. Русецкага «Наваградскі край вачыма Каната Русецкага», якая падрыхтавана сумесна з Бібліятэкай Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх. На выставе будуць прадстаўлены 27 эскізаў і малюнкаў славутага мастака XIX ст.

### Кардоннае сэрца




**На выставу лялек Кацярыны Пуставалавай «Кардоннае сэрца»** запрашае Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав.Музычны,5).

### Міракль аб Уршулі

**Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры філіял «Гасцёўня Ул.Галубка» (Старавіленская, 14)** запрашае на выстаўку партатыўных лялечных тэатраў з тэатра-студыі «Мірская батлейка» «Міракль аб Уршулі».

## ТЭАТР

### 25 ліпеня

**Янкі Купалы** — «Офіс»

### 28 ліпеня

**Янкі Купалы** — «Паўлінка»

## КІНО

### Змова мерцвякоў

**Прывідны патруль**
Баявік, камедыя
**Рэжысёр:** Роберт Швентке
**У ролях:** Раян Рэйнальдс, Джэф Брыжас, Мэры-Луіз Паркер, Кевін Бэйкан, Марыса Мілер
ЗША, 120 хв.

Малады паліцэйскі Нік Уокер, які загінуў ад рукі свайго напарніка і трапіў на той свет, нечакана атрымлівае магчымасць расследваць сваё забойства. За гэта ён абавязаны наступныя сто гадоў прысвяціць працы ў R.I.P.D. — дэпартаменце «Светлая памяць», які змагаецца з душамі, што заўпарціліся выпраўляцца на той свет, а засталіся шкодзіць тут. У напарнікі Нік атрымлівае дасведчанага ў гэтай справе стралка Роя Палсіфера, што памёр на Дзікім Захадзе. У часе расследвання напарнікі сутыкнуцца з сапраўднай змовай мерцвякоў. Новы фільм Роберта Швентке спадабаецца аматарам якаснага трэшу. Стужка насычаная экшанавымі бойкамі з мерцвякамі, якія «вылупляюцца» з людзей нармальнага выгляду. Дарэчы, знешнасць у пачварным стане яны прымаюць не абы-якую, а адпаведна сваім грахам. Асаблівай драмы рэжысёр не разводзіць, а вось смешных сітуацый — багата.

**Настасся Уласава**



# Топ-5 сувеніраў з Беларусі

Якія падарункі карыстаюцца **найбольшай папулярнасцю**?

Афіцыйны сайт нашай краіны Belarus.by даводзіць да замежнікаў, што Беларусь здаўна славіцца ільнянымі тканінамі, сімвалічнымі ручнікамі, унікальнымі вырабамі з саломы, гліны і дрэва, валёнкамі і шапкамі з аўчыны.

«Наша Ніва» пацікавілася ў гандляроў і турыстаў, што, на іх думку, павінна ўвайсці ў сапраўдны топ-5 беларускіх сувеніраў.



**Першае месца: матрошка**

Бясспрэчнае лідарства на сувенірнымі рынку за... матрункамі. Гандлёвыя кропкі на сярэднім узроўні ГЦ «Сталіца» прапануюць багаты асартымент на розны густ і таўшчыню кашалька.

Менавіта ў «Сталіцу» па сувеніры завітаў турак Азгюр, які ўпэўнены, што галоўны сімвал Расіі і Беларусі — менавіта матрошка. Дадому ў Анталію ён павёз адразу пяць маленькіх прычапных матрошак па 28100 рублёў.

Прадавачкі пагаджаюцца: хітом продажаў крамы «Вернісаж падарункаў» — найбуйнейшага сувенірнага павільёна падземнага горада — сталі міні-матрошкі.

**Другое месца: гарэлка**

Персанал двух фірмовых крамаў «Крышталь» сыходзіцца ў меркаванні, што гарэлка «Мінская» — экспартны прадукт, разлічаны на турыстаў. Сувенірная бутэлька ў скураной «вопратцы» з выявай Нацыянальнай бібліятэкі каштуе 122 000 рублёў.

Нягледзячы на Рамадан, турак вырашае набыць чатыры пляшкі гарэлкі ў падарунак сябрам. Азгюр перажывае, што узяць больш не дазволяць памежнікі. І раптам узгадвае, што ягоны сябра неяк здолеў правезці ў Турцыю ажно 15 бутэлек беларускай гарэлкі!

Гэта думка яго падбадзёрыла, аднак замест сувенірнай «Мінскай», госць з гарачага поўдня бярэ знаёмую на смак і па форме бутэлькі «Белавежскую» за 44 000 рублёў.







**Трэцяе месца: магніты**

Пакуль замежнікам цяжкавата адшукаць, дзе ў Мінску прадаюцца сувеніры. Напрыклад, мала хто з англамоўных турыстаў здагадваецца, што магніцікі на лядоўню можна набыць у кожным кіёску «Белсаюздруку».

Кіяскёры прызнаюцца, што найлепш бяруць танныя магнітныя «паштоўкі» з відамі Мінска па 6000 рублёў.

Ёсць у Мінску і магніты «на аматара»: у адной з прыватных кропак ГЦ «Сталіца» магніты з партрэтамі Пуціна, Абамы і Сталіна ляжаць побач з мінскімі пейзажамі. Каштуюць аднолькава — па 30 000 рублёў.



**Чацвёртае месца: бялізна**

Фірмовыя крамы «Лянок» прапануюць двухспальныя камплекты пасцелі з шэрага льну па 722 000 рублёў. Аршанскую бялізну раскупляюць нашмат лепш за нацыянальныя беларускія ручнікі. Асноўныя кліенты — кітайцы і расейцы.



**Бусел — папулярны ў расейцаў сімвал Беларусі.**

**Пятае месца: кераміка**

Плакетка (гліняны кругляк) з выявай бусла і надпісам «Беларусь» — сувенір нумар адзін, але папулярнасць мае ў асноўным сярод расейцаў. Каштуе 52 050 рублёў.

Увогуле, нашыя ўсходнія суседзі часта набываюць сувеніры з надпісамі па-беларуску ці пазначаныя словамі «Беларусь», «беларускі». Напэўна, яны разумеюць гэта як знак якасці.

Дадамо, што дырэкцыя чэмпіянату свету па хакеі падпісала 62 ліцэнзійныя дамовы на выпуск тавараў з афіцыйнай сімволікай турніра. Статус афіцыйнага пастаўшчыка сувенірнай прадукцыі мае шведская кампанія NEH. Цяпер са шведамі ўзгадняюцца ўмовы паставак і рэалізацыі сувеніраў.

Некаторыя тавары з лагатыпам Minsk 2014 — напрыклад, сцяжкі, значкі і льняныя сурвэткі — ужо можна набыць у крамах.

**Ягор Жукоўскі**


REUTERS

21 ліпеня ў Мінску прайшоў парад нявест. Паўсотні будучых жонак з'ехаліся ў краіну, каб прадэманстраваць свае вясельныя строі.



Так дакладна не скрадуць. Велапаркоўка гледачоў падчас гонкі «Тур дэ Франс» каля мястэчка Жывор.




Украінскія блогеры сфатаграфаваліся ў Мінску на гадзінніку насупраць КДБ.



Пчаляр Джош Кенэт з горада Цінцінара (Паўднёвая Аўстралія) спраектаваў для свайго лабрадора па мянушцы Баз адмысловы касцюм. Ён прызначаны для абароны сабакі ад укусаў пчолаў.



## Анекдоты і жарты

* * *

Найлепшы сродак ад бяссоння — легчы ў ложак і палічыць да трох. Не, лепш да палову на чацвёртую.

* * *

Дзеці шахцёраў малююць на асфальце з іншага боку.

* * *

Кіроўцы маршрутак разлічваюцца ў крамах, стоячы спіной да прадаўца.

* * *

Кажуць, што на «Славянскім базары» пад фанеру выступалі нават «Харошкі».

* * *

Міліцыянты зразумелі, што даганяюць невінаватага, калі той пачаў сыходзіць ад іх па вадзе.

* * *

Я не магу спакойна заснуць, пакуль у лядоўні мерзне ежа.

* * *

Злодзей, які захрас у фортцы, не змог у міліцыі патлумачыць, дзе яго збілі: на вуліцы ці ў памяшканні.

* * *

У адпачынак з'ехаў адзін дырэктар, а адпачыў увесь калектыў.

* * *

— Вы молада выглядаеце. У чым ваш сакрэт?

— Мне васямнаццаць.

* * *

— Тата, мяне сёння ў школе выклікалі.

Не здзіўлюся, калі заўтра выклічуць мяне.

## «НН» сто гадоў з вамі

Паводле новай уставы аб ваеннай павіннасці, праваслаўныя псаломшчыкі, каторыя кінулі сваю службу ў царкве да 30 гадоў, павінны будуць служыць у салдатах.

**«НН». №30. 1913.**

**Фармат 27 Ліпеня.** Дзень Незалежнасці 27 Ліпеня да 1996 года быў дзяржаўным святам. Пасля яго абхаялі ўлады, узарпавала апазіцыя. Былі дэманстрацыі, для пары дзясяткаў чалавек гэты дзень запомніцца адседкамі на Акрэсціна. Але нешта не прыпомніцца, каб цэрберы рэжыму надта лютавалі ў гэты дзень. Ну, свята ж новае, ад спякоты троху млявае. Не Вялікдзень і не Дзень Волі, адным словам. У любым разе гэты дзень у нацыянальнай гісторыі застанецца, хоць яго ніколі не святкавалі як след. Як-ніяк, а Рэспубліка Беларусь заявіла пра незалежнасць.

**«НН». №27. 2003.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| намеснікі галоўнага рэдактара | Ягор Марціновіч<br>Зміцер Панкавец |
| галоўны рэдактар | Андрэй Генадзевіч Скурко |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8006. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 16.07.2013.
Замова №2924.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

